PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 30 (2150) Год XLII Беласток 27 ліпеня 1997 г. Цана 1 зл.



*Бязважкі палёт.* Фота Багуслава Ф. СКОКА з „Кур'ера параннага"

# Людзі ў балоце

**На „Басовішчы", за сем гадоў фестывалю, рознае было: перабоі з электрычным токам, затрымка дзесьці на мяжы музыкантаў з Беларусі, дождж. Але такія крайне неспрыяльныя ўмовы як сёлета здарыліся ўпершыню. Спачатку прэзідэнт Кваснеўскі аб'явіў пятніцу 18 ліпеня днём агульнанацыянальнай жалобы па ахвярах паводкі на поўдні Польшчы. Імпрэзу давялося перакладаць на наступны дзень. Такім чынам, у суботу атрымаўся музычны марафон, ад дзесятай раніцы і праз усю ноч.**

Не часта (калі наогул) рок-канцэрты пачынаюцца перад поўднем. Сабраным у падгарадоцкім Барыку фанам, аднак, гэта мала перашкаджала. Адразу пайшлі пад сцэнай у шалёны танец-*pogo*, з бязважкімі ўзлётамі і балючымі, усё ж такі, падзеннямі. І не паўстрымала іх нічога — ні стома, ні працяжны дождж, якога „Басовішча" яшчэ не ведала.

Конкурсная частка, у якой выступіла адзінаццаць гуртоў з Беласточчыны і Беларусі, прайшла пад захмараным, але яшчэ сухім небам. Затое, як пад вечар пачаў ісці дождж, то не перастаў аж да нядзелі. *Drobnostka*, — пракаментавалі непагадзь хлопцы з Сямятыч і Белай-Падляшскай, якія вярталіся з фестывалю ў нядзелю вечарам, — *najważniejsze, że atmosfera była świetna.*

Відаць, сапраўды нешта ў атмасферы „Басовішча" прыцягальнае ёсць, што адчуваецца не толькі такімі як я мастадонтамі, якія не прапусцілі ніводнага фестывалю. Доказам гэтаму хаця б гурты, якія ўзніклі спецыяльна дзеля таго, каб зайграць у Гарадку. Польскамоўная на штодзень моладзь складае беларускія песні, бо ведае, што толькі з такімі тут выступіць. Некаторыя гурты тут жа разлятаюцца, але іншыя з году ў год робяць прагрэс, вяртаюцца на „Басовішча", заваёўваюць узнагароды. Для некаторых беларушчына перастае быць адно атрыбутам канцэртаў, займае усё больш месца ў штодзённым жыцці.

Прыкладам такога, створанага дзякуючы „Басовішчу" гурту можа быць даволі актыўная ў апошні час гарадоцкая „Брага", якая выступіла сярод зорак фестывалю (толькі тут, праўда, беларушчына ад самага пачатку была не святочным дадаткам, а падставай). Таксама адзін з сёлетніх пераможцаў, гайнаўскі гурт „The Dwery" — узнагароды войта Гарадоцкае гміны і Беластоцкага радыё — добра вядомы на „Басовішчы". Тут ён упершыню выступіў перад шырэйшай публікай, а ў гэтым годзе, калі дайшла цікавая, тэмпераментная салістка Кася, атрымаў прызнанне. Старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа сваю ўзнагароду фундаваў таксама добрым знаёмым — гурту „Zdrowie na Budowie". Беларускае аб'яднанне студэнтаў, затое, узнагародзіла англамоўны гурт з Менска „Хаста ля Філста", моцным пунктам якога, як і ў выпадку гайнаўлян, была салістка (беларускамоўная).

Трэба сказаць, што, арганізатары добра папрацавалі перад фестывалем — даўно ўжо на „Басовішчы" не было столькі новых цікавых гуртоў з Беларусі. Для прыкладу, калі зайграў свой *dum-metal* менскі „Зніч", настолькі зрабілася страшна, што здавалася, праз хвіліну з'яўляцца нейкія лятучыя пачвары. Вельмі рэзка заявіў сябе на сцэне гурт „Deviation" з Гродна: *Праваю рукою хочам памахаць нашаму каханаму ё... прэзідэнту, а левай першаму беларускаму касманаўту Зянону Станіслававічу Пазняку*. Непрымірымасць да сістэмы, якую яны *велічаюць* разам з *Лукой уродам* — гэта арганічная частка іх дарослага жыцця. Пасля першага канцэрта ў Бераставіцы ў 1993 годзе прасядзелі яны дзесяць сутак. У Беларусі іх канцэрты, звычайна, абрываюцца на трэцяй-чацвёртай песні. На пытанне, чаму яны такія рэзкія, хлопцы адказваюць: *Якое жыццё, такія і тэксты. Калі на нас плююць, мы адхаркваем.*

Моцныя фрагменты канцэртаў лагодзіла сваёй прысутнасцю на сцэне канферансье Гося Пракапюк. Яна была настолькі салодзенькая, што можна ёй даваць *Хайнаўку* і ўсе астатнія моўныя хібы. Нават Валянціна Ласкевіч, да якой усё больш раўняе Гося, не без граху.

Цяжка, затое, дараваць арганізатарам, што пратрымалі менскую „Краму" да самага канца і выпусцілі іх пасля таго, як польскі гурт „Proletaryat", практычна, закапаў публіку ў балота. „Стэфку" слухалі ўжо выключна мацакі. Нават калі камусьці не падабаецца музыка „Крамы", шкада выкідаць грошы на гурт, які мае іграць толькі пустому пляцу бою і абпырсканым балотам соснам.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

## У нумары

# Мы прачыталі

*W 1975 r. władzę w Kambodży przejęli Czerwoni Khmerzy. Przy pomocy Chin błyskawicznie opanowali sytuację i zaczęli realizować własną wersję rewolucji kulturalnej, ale nie połowicznej jak u Mao Tsetunga. Postanowili zbudować komunizm idealny, rolniczy. W tym celu trzeba było wyeliminować wszystkie chwasty ludzkie. A więc jednostki ludzkie mające kontakt ze zgnilizną zachodnią. Wymordowano zatem mieszkańców miast, mających dostęp do telewizji, szkół. Oznaką szczególnego zepsucia traktowano noszenie okularów lub znajomość języków obcych. Zginęło ponad połowę mieszkańcow Kambodży. W 1979 r. Kambodżę zajęli Wietnamczycy, którzy przepędzili reżim Czerwonych Khmerów kierowany przez Pol Pota do dżunglii. I nagle ociekający krwią Khmerzy ze zbrodniarzy stali się sojusznikami Ameryki i zachodniej demokracji. Dziś staje problem międzynarodowego trybunału dla Pol Pota, jednak wszystko wskazuje na to, że USA i Chiny nigdy nie dopuszczą do tego, aby największy zbrodniarz Azji przemówił.*

*Polityka, nr 27*

* * *

*W 1993 r. w województwie białostockim większość obywateli udzieliła poparcia kandydatom SLD. Otrzymaliśmy cztery z siedmiu mandatów. Dotrzymaliśmy obietnic wyborczych. Poziom optymizmu w kraju jest najwyższy od 1993 r. Badania wskazują, że 72 proc. Polaków jest szczęśliwych. To niebywałe... Przypominam treść ulotki sprzed czterech lat. Pierwsza sprawa — bezrobocie. Załatwiona. Druga — gospodarka. Wykonaliśmy to. Mamy nawet problem ze zbyt szybkim tempem wzrostu gospodarczego. Trzecia — rolnictwo. Podtrzymano banki spółdzielcze, rozwinęła się telefonizacja, gazownictwo, wodociągi. Inflacja jest znacznie mniejsza niż prognozowaliśmy*, — сказаў прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч.

*Kurier Poranny, nr 156*

Нешта ў падобным стылі ўжо нехта гаварыў. „Aby Polska rosła w siłę, a ludzie żyli dostatniej" — неяк так гэта гучала. „Ёсць добра, а будзе яшчэ лепш". Знакаміта!

* * *

*W Ministerstwie Finansów działał zespół, który zezwalał firmom, najczęściej bogatym, na niepłacenie podatków. Zwolnieni zostali z płacenia podatków General Motors Poland, Fabryka Samochodów w Lublinie, Łódzka Wytwórnia Papierosów, Petrochemia Płock i Gdańsk — firmy otwierające listę najbogatszych przedsiębiorstw.*

*Gazeta Wyborcza, nr 165*

* * *

*Prawosławni Słowianie stanęli do wyścigu do Sejmu. Chcą powstrzymać proces degradacji regionów które zamieszkują, rozwijać tradycję, kulturę i wiarę mieszkających w Polsce Białorusinów, pomagać w zachowaniu tożsamości narodowej Łemkom, Ukraińcom, Rosjanom.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 154*

Дарагія браты славяне! Лэмкамі, украінцамі, расейцамі апякуйцеся сабе, калі ласка, колькі хочаце. Дазвольце, аднак, што мы, беларусы, самі будзем клапаціцца пра сваю традыцыю і культуру.

* * *

*Czego można spodziewać się po oszalałych z dewocji facetach, gołym okiem widać w Białymstoku. Po wyborach samorządowych 1994 r. radni białostockiej „Jedności" rządkiem maszerowali po wskazówki do miejscowej Kurii. Nic więc dziwnego, że obecną kadencję Rady Miasta trapi odwieczna obsesja kleru, czyli pierdolec seksualny. Wokół dupy obracało się już kilkanaście posiedzeń Rady.*

*Nie, nr 27*

* * *

*У Гродне лукашэнкаўскія патрыёты правялі ўстаноўчую канферэнцыю абласной арганізацыі Беларускага патрыятычнага саюза моладзі. Канферэнцыя адбылася ў абласным драматычным тэатры — з буфетамі, півам і аркестрам. Дэлегатаў „незалежнай" арганізацыі прывозілі на сходку за дзяржаўны кошт.*

*Свабода, н-р 69*

* * *

*Зря аналитики так настойчиво указывали на одно из самых слабых мест нынешнего режима — отсутствие поддержки в молодёжной среде. Теперь режим за голоса молодых готов заплатить очень высокую цену, и уже выстроилась очередь из желающих эту „цену" распределить.*

*Белорусская деловая газета, н-р 45*

„Белорусский патриотический союз" быццам бы налічвае ўжо 500 тыс. членаў. Праўдападобна некаторыя нават не ведаюць, што з'яўляюцца лукашэнкаўскімі патрыётамі. Але гэта наймепш важнае.

# З мінулага тыдня

Прыняццё **Варшаўскай дэкларацыі** завяршыла 4-дзённае пасяджэнне VI Парламенцкай Асамблеі АБСЕ ў сталіцы Польшчы. У 170 параграфах дакумента ўдзельнікі асамблеі выказалі свае меркаванні ў справах бяспекі, права і грамадзянскіх свабод. Найбольш спрэчак выклікаў запіс, у якім прэзідэнт Беларусі **Аляксандр Лукашэнка** заклікаецца прызнаць легальным Вярхоўны Савет XIII скліканння, які быў дэмакратычна выбраны ў канцы 1995 года. Супраць такога запісу пратэставалі расейскія дэлегаты.

**Формы чалавечай дыскрымінацыі**: расізм, ксенафобія ці антысемітызм — гэта агульнаеўрапейскія праблемы. Паспяхова супрацьстаўляцца дыскрымінацыйным тэндэнцыям могуць сродкі масавай інфармацыі, якія прапагандуюць інтэграцыйныя ідэі, — прызналі ўдзельнікі завершанай у Боне канферэнцыі „Зразуменне цераз інфармацыю — супраць расізму і ксенафобіі". У ходзе канферэнцыі свае пазіцыі запрэзентавалі прадстаўнікі Еўрапейскай камісіі, двух нямецкіх міністэрстваў, рэпрэзентанты згуртаванняў чужаземцаў у Нямеччыне і адукацыйна-інтэграцыйных арганізацый з ФРГ, Галандыі і Францыі. Выступленням прыслухоўваліся журналісты з адзінаццаці краін, у тым ліку і з Польшчы.

**Беласточчына** дапамагае ахвярам паводкі ў паўднёвых і заходніх раёнах Польшчы. Паехалі туды дваццаць пажарнікаў на пяці спецыялізаваных машынах. У іх ліку ёсць экіпа выратавання на вадзе з шасці чалавек з Сямятыч і дванаццаць пажарнікаў з Падафіцэрскай пажарнай школы ў Супраслі. У Аполе былі адпраўлены некалькі транспартаў з дарамі, якія сабраў Польскі чырвоны крыж. Галоўным чынам была гэта пітная вада, харчы і гігіенічныя сродкі. Беластоцкія сродкі масавай інфармацыі супольна з уладамі Беластока правялі на вуліцах горада збор ахвяраванняў пад лозунгам „Беластачане жыхарам Рацібажа".

**Польскае мастацтва 1945—1996** — так называецца выстава, якая адкрылася ў сталіцы Эстоніі Таліне. Прэзентуе яна разнародныя тэндэнцыі ў польскім пасляваенным мастацтве, а экспанаваныя працы, між іншым і **Лявона Тарасэвіча**, паказваюць роднасць польскага мастацтва з еўрапейскім.

**У Беластоцкім ваяводстве** ў першым сёлетнім паўгоддзі здарыліся 344 дарожныя аварыі, у якіх загінула 30 чалавек (у самім Беластоку ў 225 аўтамабільных катастрофах загінула 7 чалавек). Лік дарожных сутыкненняў у параўнанні да аналагічнага перыяду мінулага года павялічыўся на 15%, а смяротных ахвяр — на 35%. У кожным другім трагічным здарэнні ўдзельнічалі пешаходы. Самым небяспечным месяцам аказаўся чэрвень, у якім зарэгістравана 84 аўтамабільныя катастрофы і 9 смяротных ахвяр. За паўгоддзе паліцыянты затрымалі 790 п'яных шафёраў, а 9 116 парушальнікаў правілаў дарожнага руху аштрафавалі на 600 тыс. зл.

**Чацвёра грамадзян Беларусі** згарэла ў легкавой машыне „Фальксваген" у выніку сутыкнення з аўтафургонам „Жук" на міжнароднай шашы Е-30 каля Бялай-Падляшскай. Пасля дарожнай аварыі абедзве машыны загарэліся. Легкавік згарэў поўнасцю, а целы пасажыраў апаліліся.

**Паліцыя** затрымала трое падлеткаў, якія знішчылі чатыры крыжы на праваслаўных могілках у квартале Выгода ў Беластоку. 14- і 15-гадовыя вандалы мелі пры сабе пакеты з клеем і растваральнікам, якія замянялі ім наркатычныя сродкі.



# Весткі з Беларусі

**Парламенцкі зварот**

У сувязі з тым, што дэлегацыя Нацыянальнага сходу Беларусі не была запрошана для ўдзелу ў VI сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, Нацыянальны сход РБ палічыў неабходным звярнуцца да яе ўдзельнікаў са зваротам. У ім у прыватнасці гаворыцца: „Мы па-ранейшаму лічым несправядлівым студзеньскае рашэнне Пастаяннага камітэта Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў адносінах да непрызнання паўнамоцтваў прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі. У адпаведнасці з канстытуцыяй, якую падтрымала большасць насельніцтва на агульнанародным рэферэндуме 1996 года, у краіне былі сфарміраваны новыя інстытуты ўлады. Ужо цяпер відавочна, што двухпалатная сістэма фарміравання вышэйшага заканадаўчага органа поўнасцю апраўдала сябе ва ўмовах беларускай дзяржаўнасці. Таму выклікае здзіўленне, што місія Парламенцкай асамблеі АБСЕ адмовілася ад сустрэч з прадстаўнікамі дзеючага заканадаўчага органа. Лічым, што такія зігзагі ў пазіцыі місіі не зусім лагічны і могуць расцэньвацца як праяўленне непавагі да дзяржавы з боку арганізацыі, членам якой гэта дзяржава з'яўляецца".

**Выдварэнне журналіста**

2 ліпеня Міністэрства замежных спраў РБ накіравала пісьмо кіраўніцтву Грамадскага расейскага тэлебачання (ОРТ) з патрабаваннем прынесці прабачэнні за крытыку кіраўніцтва дзяржавы ў рэпартажах уласнага карэспандэнта гэтай тэлекампаніі ў Беларусі Паўла Шэрэмета. Кіраўніцтва ОРТ пакінула без увагі гэты заклік. Зыходзячы з гэтага 7 ліпеня Камісія МЗС па разглядзе пытанняў акрэдытацыі карэспандэнтаў замежных сродкаў масавай інфармацыі прыняла рашэнне пазбавіць акрэдытацыі ў Беларусі загадчыка Беларускага бюро ОРТ Паўла Шэрэмета.

**Абурэнне віцэ-прэм'ера**

Урад будзе бараніць расейскіх журналістаў, нягледзячы на тое, ці працуюць яны ў Беларусі, Паўночнай Карэі або Кубе, — заявіў віцэ-прэм'ер Расеі Барыс Нямцоў. Прычынай ягонага абурэння было пазбаўленне акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь загадчыка Беларускага бюро ОРТ Паўла Шэрэмета. Расейскі віцэ-прэм'ер назваў гэты факт сур'ёзным парушэннем статута Саюза Беларусі і Расеі.

**Новы пасол**

Прэзідэнт ЗША прызначыў Даніэла Спехарда, цяперашняга намесніка пасла па асобых даручэннях у новых незалежных дзяржавах былога Савецкага Саюза, паслом ЗША ў Беларусі. Д. Спехард займаў розныя пасады ў Белым доме, у Кангрэсе і Агенцтве міжнароднага развіцця, а таксама шэраг ключавых пасад у Дзярждэпартаменце.

**Спрыяльны калідор**

Менск і Брэст стануць важнейшымі апорнымі пунктамі трансеўрапейскага камунікацыйнага калідора Парыж—Масква. Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі сумесна з Федэральным міністэрствам упарадкавання тэрыторыі і гарадскога будаўніцтва ФРГ пры падтрымцы фірмы Planco Consulting GmbH завяршае распрацоўку праграмы развіцця гэтага калідора. Развіццё трансеўрапейскага калідора спрыяльна адаб'ецца на эканамічнай сітуацыі шаснаццаці адміністрацыйных раёнаў Беларусі, у якіх пражывае больш як 33% насельніцтва краіны.

**Аздараўленне дзяцей**

Рэспубліканскі Чырвоны крыж у жніўні г.г. накіроўвае 120 беларускіх дзяцей на аздараўленне ў Галандыю. Гэтая краіна прымае дзяцей з Беларусі ўжо трэці год запар, а на гэты раз Галандыю наведаюць маленькія жыхары з Калінкавіч і Жлобіна Гомельскай вобласці, а таксама дзеці з Рэспубліканскага таварыства „Аўтограф Чарнобыля".

**Піва-медаліст**

Двух залатых медалёў і аднаго сярэбранага ўдастоена на праведзеным у Менску Міжнародным конкурсе дэгустацыі рэчыцкае піва. Гэта ўжо не першая ўзнагарода дняпроўскіх півавараў за апошнія гады. Пастаянная ўвага да якасці пеністага напітку адбіваецца і на яго попыце. Сёння піва з Рэчыцы ахвотна закупляюць не толькі гандлёвыя і камерцыйныя прадпрыемствы Беларусі, але і Расеі.

# Нашы мястэчкі і вёскі

**Кашалі**

Сама вялікая і адна з найстарэйшых вёсак у Арлянскай гміне. Паводле выказваннняў старэйшага пакалення яўрэяў, была яна на 60 гадоў старэйшая за Орлю. Першапачаткова называлася яна *Катэлі*, а назва выводзіцца ад пастухоўскіх торбаў або ад турэцкага слова *кош* — напрыклад: сталі кошам, г.зн. ваенным лагерам.

Першая згадка пра *Coszelie* паходзіць з акта ад 1495 г. аб дараванні магдэбурскага права гораду Бельску. У 1507 г. Кашалі атрымаў пісар трокскага ваяводы Яська Іванавіч, які памяняўся з Богушам Багавіцінавічам. У 1510 г. Кашалі ўваходзілі ў састаў Арлянскай маёмасці. У 1577 г. пры панаванні слуцкіх князёў у Кашалях была 31 валока, 2 карчмы і 2 загароднікаў. У 1654 г. жыў тут 91 гаспадар, а ў выніку войнаў у першай палове XVII ст. лік жыхароў рэзка зменшыўся і ў 1673 г. было ўсяго 34 дамы ды абраблялася толькі 21 валока зямлі. Развіццё вёскі наступіла пасля адмены прыгонніцтва. У 1867 г. у Кашалях было 47 дамоў, а ў 1900 — 75.

У 1904 г. паўстала аднакласная школа граматы. Пасля I сусветнай вайны будынак школкі яўрэй Шмулька Вайштын, уладальнік кафлярні, перавёз у Орлю і зрабіў сабе кватэру.

У 1946 г. у Кашалях было 98 дамоў і 417 жыхароў. Цяпер у самай вялікай вёсцы ў гміне пражывае 321 чалавек, у тым ліку ёсць дваццаць дзейных земляробаў. Адзін з гаспадароў мае 250 гектараў, другі — 60 га.

У Кашалях жывуць браты Віктар і Сцяпан Хурсы — людзі з багатай душою. Гэта яны перавезлі з Гайнаўкі танк-помнік. У вёсцы ёсць свая футбольная каманда SPiUR Orla, з якой працуе Сцяпан Лушч. З Кашалёў паходзіць таксама Юры Каліна — журналіст „Часопіса" і супрацоўнік Беластоцкага асяродка тэлебачання.

**Міклашы**

Вёска суседнічае з Орляй. Упершыню згадваецца ў дакуменце ад 1586 г., але пад трохі іншай назвай: *villa bojarorum Miklaszewszczyzna.* Пры Радзівілах была гэта баярская вёска ў Арлянскай маёмасці. Навейшыя факты паказваюць, што ў Міклашах пасяліліся жыхары неіснуючай ужо вёскі Вырвачкі, якія ацалелі падчас эпідэміі халеры. Аб гэтым сведчаць такія прозвішчы, як Хурса, Кірылюк, Ёдла.

У 1930 г. Міклашы налічвалі 245 жыхароў, у 1946 — 206 (і 44 дамы), а ў 1996 — 181.

У Міклашах жыве Вольга Казлоўская, народная мастачка, лаўрэатка прэміі імя Оскара Кольберга і ўзнагароды міністра культуры і мастацтва.

**Шарні**

Калісць гэта вёска называлася *Sernie* (назва нявысветлена) і ляжыць яна пры дарозе з Орлі ў Маліннікі. Ужо ў 1577 г., пры панаванні слуцкіх князёў вёска мела 9 валок, 1 карчму і 2 каморнікаў. Войны ў XVII ст. вёсцы не пашкодзілі і ў 1654 г. былі тут 23 дамы, а ў 1663 г. — 20 дамоў. Абшар зямлі павялічыўся да 30 валок. З кастрычніка 1884 г. існавала тут школа граматы, у якой у навучальным годзе 1886/1887 вучыліся 16 хлопцаў і 4 дзяўчынкі. У 1915 г. 250 чалавек падаліся ў бежанства ў глыб Расіі. У вёсцы застаўся Нікан Кукулка, які стаў безабаронным сведкам таго, як яўрэі грабілі і вывозілі больш каштоўныя збудаванні, у тым ліку і ягоную клуню.

У 1923 г. у Шарнях жыло 170 жыхароў, а ў 1946 г. — 221 чалавек у 41 доме. Вёска гарэла двойчы. У 1941 г. спалілі яе немцы, а ў 1952 г. пажар успыхнуў з-за неасцярожнасці чалавека.

Ураджэнцам Шарнёў з'яўляецца а. Рыгор Сасна — падзвіжнік служэння Госпаду Богу і свайму беларускаму народу, гісторык Праваслаўя і Падляшша, бібліёграф, аўтар шэрагу кніжак і артыкулаў, якія лічацца каштоўнымі ў навуковым свеце.

Цяпер Шарні налічваюць 165 жыхароў. Земляробствам займаецца 15 гаспадароў.

**Тапчыкалы**

Вёска існавала ўжо ў 1500 г., а яе ўладальнікам быў Богуш Міхал Багавіцінавіч. Тады вёску ў большасці засялялі баяры. Пры слуцкіх князях Тапчыкалы займалі 38,5 валокі і былі тут 2 карчмы і 23 каморнікаў. Чацвёртая частка зямлі належала баярам, а самымі багатымі лічыліся Нічыпар Тарасэвіч, Яська Кукулка і Язэп Глінскі, сваяк князя Міхала Глінскага.

У 1654 г. у Тапчыкалах было 89 дамоў і займалі яны другое месца па колькасці насельнітва ў Арлянскай маёмасці. З ваеннага ліхалецця вёска выйшла знішчанай. У 1674 г. налічвала яна 29 дамоў, а ў 1832 г. — 35. У кастрычніку 1884 г. паўстала аднакласная школа, якую ў навучальным годзе 1886/1887 наведвалі 21 хлопчык і 7 дзяўчынак. У 1908 г. вучылася ўжо 34 дзетак.

У 1905 г. у Тапчыкалах было 45 дамоў. Вёска поўнасцю апусцела ў час бежанства, з якога ў 1922 г. вярнулася 45 часта няпоўных сем'яў. У 1930 г. колькасць насельніцтва павялічылася да 237 чалавек, а ў 1946 г. — было тут 65 дамоў і 260 жыхароў.

На пачатку вёскі стаіць характэрная хатка з круглякоў (на здымку) пабудаваная пасля II сусветнай вайны. Цяпер у Тапчыкалах ёсць 36 гаспадарак і 237 жыхароў. Варта прыгадаць, што вёска мае і тэатральныя традыцыі: тут калісьці дзейнічаў тэатральны гурток.

**Рудуты**

Раней называліся яны *Рудолтамі.* Вёска ляжыць пры дарозе з Орлі ў Дубічы-Царкоўныя. Пры слуцкіх князях вёска займала 21,5 валокі і былі тут 2 карчмы, 5 млыноў і 6 каморнікаў (1577 г.). У кастрычніку 1884 г. у вёсцы была адкрыта аднакласная школа. У навучальным годзе 1886/1887 вучылася ў ёй 23 хлопцаў. У 1930 г. Рудуты налічвалі 320 жыхароў, а ў 1946 г. — 331 (у 63 дамах).

Да 1970-х гадоў у прыватным будынку працавала чатырохкласная школа. У 1960—1970-х вёска перажывала перыяд бурнага развіцця дзякуючы пляценню вырабаў з саломы. Цяпер жыве тут 196 жыхароў, большасць якіх складаюць пенсіянеры. Земляробствам займаецца ўсяго некалькі чалавек. Так як і ў кожнай вёсцы многа тут пустуючых дамоў.

**Шчыты**

Дзве вёскі пры шашы ў Гайнаўку. Адна з іх пры агульнай назве мае дадатковую — Навадворы, другая — Дзенцялова. Упершыню маёнтак пад агульнай назвай упамінаецца ў 1522 г. Неўзабаве ў Шчытах з'явіліся два двары: Навадворы і Дзенцялова. Апошні, збудаваны ў XVIII ст., захаваўся да сённяшняга дня. Жывуць у ім Антыховічы — патомкі колішніх уладальнікаў. У XVIII ст. частку Шчытоў з млынам і жыхарамі купіў Ян Клеменс Браніцкі, які прывёз сюды і ўстанавіў на п'едэстале скульптуру св. Яна Непамука. У 1839 г., пасля скасавання уніі, пачалася спрэчка паміж каталікамі з Бельска і мясцовымі праваслаўнымі, у выніку якой фігура св. Яна Непамука страціла руку. Верх узялі праваслаўныя і фігура святога да сённяшняга дня знаходзіцца каля царквы Адсячэння Галавы св. Іаана Хрысціцеля (заснаванай у 1785 г.).

У 1930 г. Шчыты з фальваркамі Навадворы і Дзенцялова налічвалі 504 жыхароў. У пасляваенны перыяд, да 1978 г., існавала тут пачатковая школа — спачатку сямікласная, потым чатырохкласная.

Цяпер у Шчытах-Навадворах жыве 131, а ў Шчытах-Дзенцялове — 98 чалавек.

**Крывятычы**

Даўней вёску называлі *Крываволя*. У 1577 г. займала яна 8 валок. Даўней засялялі яе асочнікі, якія сачылі за лясным зверам ды пільнавалі панскага лесу. У кастрычніку 1884 г. адкрылі тут аднакласную школу граматы, у якой у навучальным годзе 1886/1887 вучылася 18 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1930 г. Крывятычы налічвалі 304 жыхароў, а ў 1946 г. — 308 у 60 дамах.

Цяпер у Крывятычах жыве 208 чалавек. На полі за вёскай захаваўся стары вятрак. Жыхар гэтай вёскі, Яша Багацэвіч, чытае „Ніву" з першага нумара.

***(працяг будзе)***

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



*Колішняя школа ў Шчытах.*

# Арыгінальныя экспанаты

На пад'ездзе чыгуначнай станцыі ў Беластоку стаіць маленькі лакаматыў з вагончыкам вузкакалейнай лініі. Гэта не экспанат на выстаўку. Тут змяшчаецца міні-бар, у якім можна купіць напіткі, бутэрброды ды ўсё іншае, што рыхтуе гастраномія. Прадпрымальнікам і адначасова ўладальнікам гэтага арыгінальнага бара з'яўляецца малады гандляр Міраслаў Заборскі. Родам ён з Чаромхі. Яго карані выводзяцца з сям'і чыгуначнікаў. Як гэта здарылася, што прыватны прадпрымальнік рызыкнуў купіць лакаматыў і прыстасаваць яго на гандлёвае памяшканне?

Вось што мне расказаў прыяцель Міраслава Заборскага, Янка Кубіцкі, мой сардэчны калега.

— З уваходам рыначнай эканомікі мой сябрук надумаў заняцца бізнесам. Самым лепшым месцам для гандлю здавалася быць чыгуначная станцыя. Калі паспрабаваў аформіць арэнду плошчы, у Варшаўскай дырэкцыі яму адмовілі.

— Трэба нечым звязацца з чыгункай, — казалі начальнікі. — Тады лягчэй будзе аформіць дакументы.

Мірэк пачаў думаць як ажыццявіць свае гандлёвыя планы. І тады зрадзілася ў яго галаве думка — адкрыю свой гастраном у цягніку. Спалучыўся Заборскі з начальнікам перавозачнай службы ў раённай станцыі ў Беластоку Тадэўшам Вэсалоўскім. А паколькі той родам з Кляшчэляў, хутка суседзі дамовіліся паміж сабою.

— Неўзабаве будзем адзначаць 150-ую гадавіну чыгункі ў Беластоку. Едзь на аўкцыён, — казаў начальнік, — купі лакаматыўчык з вагонам вузкакалейнай лініі і скажы, што гэта будзе помнік даўніны на наша свята, арыгінальны экспанат для турыстаў.

Калі Міраслаў Заборскі прад'явіў свой план у ЦДОКП у Варшаве, ніхто не сумняваўся, што яго мары збудуцца канчаткова. Незадоўга да святочнага вечара чыгуначнікаў у Беластоку, на пад'ездзе станцыі „спыніўся" незвычайны поезд, на якім віднелі надпісы на вагоне: Bar Ciuchcia — 150 lat PKP Białystok і на лакаматыве: XP100MZ.

Такім чынам беластоцкі прадпрымальнік звязаўся з чыгункай і тым самым працягвае сямейную чыгуначную традыцыю.

**Уладзімір Сідарук**

PS. Праязджаючы Чаромху вуліцай Вішнёвай (з Кузавы ў Ставішчы), у агародчыку забудовы Янкі Калішэвіча можна ўбачыць даволі арыгінальны экспанат — драўляны сялянскі воз на жалезных абручах. Такімі карысталіся даўней нашы дзядулі і бацькі. Зараз толькі недзе завальваюць такія ўнікаты сялянскія гумны як нікому непрыдатная старына.

Выцягнуты недзе з кутка запылены хлам прыгожа памаляваны Янкам Калішэвічам не толькі ўпрыгожвае зараз агародчык, але і напамінае кожнаму мінулую эпоху не так ужо лёгкай долі селяніна. Думка асвоеная маладым чыгуначнікам з Чаромхі заслугоўвае на пашану. Няхай гэта будзе добры знак іншым маладым, якіх карані выраслі з сялянскіх сем'яў.

**(ус)**

# Бельск між X і XXI стагоддзямі

Мадэрнізацыя вуліцы можа аказацца вельмі складанай справай. Асабліва, калі гэта вуліца Замкавая ў такім старым горадзе як Бельск-Падляшскі.

Як толькі землечарпалка паглыбілася ў зямлю на берагу Любкі, пачала выкопваць аграмадныя, завостраныя палі. Зараз жа ў выемцы з'явіліся мясцовыя аматары даўніны. Цікаўнасць да бельскіх старажытнасцей аб'яднала асобы, якія звычайна між сабой не кантактуюць. Апынуўся тут і Тадэўш Мілер, які даказвае, што ў Бельску няма беларусаў, і Дарафей Фіёнік, які, наадварот, паказвае на старажытнасць беларусаў у Бельску. Пан Мілер здолеў нават пераканаць спадара Фіёніка да сваёй канцэпцыі, што вось адкапалі мост у замак. Каб высветліць да чаго дакапалася землечарпалка, пабудову трэба было спыніць.

Неўзабаве на месцы з'явіўся археолаг з Беластоцкага акруговага музея Юры Мацейчук. Некалькі дзён пазней з радасным хваляваннем расказвае мне пра свае незвычайныя знаходкі.

— Адкапалі мы паселішча ранейшае за пабудову горада. Паводле керамікі можна гэтае паселішча датаваць на X стагоддзе. Накапалі мы два вядры керамікі і два вядры касцей і яшчэ не выбралі ўсяго. Частка матэрыялу безумоўна ўсходнеславянскага паходжання. Маем шыферную праслiцу з Оўруча, рогавыя пласці з геаметрычным арнаментам з нарэзаў і колцаў, дзве каменныя асёлкі (брускі), два нажы, магчыма, для апрацоўкі рога, адзін ражок аброблены, як быццам падрыхтаваны да асадкі. Знайшлі мы таксама жалезны чаранковы наканечнік стралы ўсходняга тыпу. Калі акажацца, што значная частка касцей мае сляды апрацоўкі, можна будзе лічыць, што маем дачыненне з кастарэзнай майстэрняй.

Падыходзім да галоўнага аб'екта. У выемцы на глыбіні нейкіх 2,5 метра відаць каменны пояс.

— Адкапаная тут будоўля, — паясняе спадар Мацейчук, — мела 9 метраў у дыяметры і пабудаваная была на паўкруглым плане. Пад вуліцай знаходзіцца толькі частка аб'екта, якая далей падыходзіць пад сядзібу. Будыніна была драўляная. Звонку сцены да пэўнай вышыні абкладзены былі камянямі. У свой час будоўля згарэла і драўляныя сцены зваліліся ў сярэдзіну. Разам з імі зваліліся і камяні. Гарэла відавочна знізу, бо верхнія бэлькі не згарэлі і таксама ўпалі ў сярэдзіну.

У запаўненні верхняя праслойка археалагічнага матэрыялу паходзіць з XIII ст., ніжняя — з X ст.

Ідзем далей у бок водапрапускной трубы на Любцы. Бачу згаданыя напачатку палі.

— Найбольшыя захаваныя, — аб'ясняе іншы супрацоўнік музея Юры Астапчук, — маюць 4 метры даўжыні. Яны амаль выключна дубовыя, толькі паасобныя сасновыя. Палі не з ранняга сярэднявечча, бо мы адкапалі праслойку гару, датаваную на XIII ст. Палі ўбітыя якраз у гэтую праслойку, і няма на іх следу гарэння, значыць, яны пазнейшыя. Мабыць, з XVI ст., а можа і XVIII ст.

— Праўдападобна, — каментуе Юры Мацейчук, — палі мацавалі адхон, бо яны згушчаюцца ў накірунку кульмінацыі мясцовасці.

Востраў, на якім пабудаваны быў горад, пясчаны, на гліне. Уся даліна тарфяная. Па-за ўскраінай узвышша мясцовасць сезонна затапляецца і таму яе ўзмацнялі палямі. Дарэчы, цяпер, калі разліліся Белая і Любка, краявід нагадвае той, які тут быў у ранім сярэднявеччы.

— Бачыўся я са спадаром Мілерам, — дабаўляе Юры Мацейчук, — які даказваў, што палі — гэта частка моста ў замак. Не хацеў слухаць, што гэта не так, што замак быў у іншым месцы. Калі да таго пачуў, што капаем тут усходнеславянскі матэрыял, дык перастаў паказвацца.

Якраз заехала машына тыпу пікап, каб забраць палі ў музей для экспертызы. Дзесятак хлопцаў дружна бяруцца за палю і пад камандаваннем Юры Астапчука з натугай кладуць яе ў машыну. Побач спыніўся мужчына, які ўважліва назірае за тым, што тут адбываецца. Калі пачуў, што палі, мабыць, з XVI ст., заклапочана кажа: „Хлопцы, толькі не трактуйце гэтага як кавалак драўніны". Пытаецца яшчэ, ці можа падаслаць хлопца, які вельмі цікавіцца археалогіяй, каб капаў разам з усімі. Адсылаюць яго да начальніка. Праз нейкі час чую, як умаляе:

— Вазьмеце гэтага хлопца.

— А мае ён рыдлёўку?

— Мае.

— Дык няхай прыходзіць заўтра раніцай, — здаецца сп. Мацейчук.

Памеры выемкі і армія работнікаў раскопак занепакоілі жыхароў вуліцы Замкавай. Пайшла чутка, што з-за раскопак спынена будзе ўся перабудова. Каб развеяць апасенні жыхароў, пасялковая рада сарганізавала сустрэчу з уладамі горада і археолагам. Сход праходзіў на адным з панадворкаў.

Як сказаў член рады, сп. Кастэцкі, жыхары не могуць спакойна спаць ад хвалявання за лёс інвестыцыі, якой чакалі некалькі пакаленняў. Іхняе хваляванне тым больш зразумелае, што колькі з іх не мае цяпер ніякага ўезду на свой панадворак. Але ж зразумелая таксама патрэба раскопак, а асабліва для моладзі, якая ўжо ў іх памагае.

Бурмістр Андрэй Сцепанюк сказаў ад сябе, што пачынаючы мадэрнізацыю вуліцы Замкавай улады ўяўлялі, што справа не будзе так простая, як з іншымі, бо гэта гістарычная частка горада; на мадэрнізацыю вуліцы Замкавай адведзена 10 млрд. старых злотаў. Працы разлічаны на два гады. Сёлета прадугледжана выдаткаваць 5,5 млрд. ст. зл. Правядзенне археалагічных раскопак павысіць кошт на нейкіх 300 млн., бо гэта горад мусіць за іх заплаціць.

Раскопкі не абазначаюць, што пабудова будзе спынена, толькі спавольнена. Ёсць дамова з археолагамі, што землечарпалка будзе працаваць да 2 гадзіны пасля поўдня і тады на адкапаны адрэзак будуць уваходзіць археолагі.

— А якую карысць мы будзем мець з гэтых раскопкаў? — пытаецца нехта.

— Бельск зноў будзе слаўны, — усміхаецца бурмістр. — Мы дакапаліся да старажытнага паселішча. Тут жылі нашы продкі. Гэта грамадская і культурная карысць.

— Адкрываем такое, — уключаецца археолаг, — чаго нават мы сабе не ўяўлялі. Паселішча ранейшае за гарадзішча. Горад будзе ганарыцца тым, што мы на вашай вуліцы адкрываем. Моладзь пазнае гісторыю свайго горада, замест валэндацца без толку.

Археолагі працуюць, і надалей гатовы працаваць да ночы. Археалагічныя раскопкі ідуць такімі тэмпамі, што будаўнічыя працы адцягнуцца ўсяго толькі на тыдзень, і на столькі прадоўжацца пакуты жыхароў. Кошт таксама магчыма не будзе велічынёй у 300 млн. Усё ж такі археолаг мусіць плаціць работнікам за працу 3 зл. за гадзіну, бо такая стаўка на раскопках.

— Дык чаму ж не возьмеце на работу людзей з нашай вуліцы? — перабівае нехта.

Тут падымаюцца галасы:

— Мой працуе.

— І мой працуе.

— Прыходзілі тут людзі прысланыя з бюро па працаўладкаванні, але ж нецвярозыя і да працы неахвотныя. Цяпер капаюць маладыя, якія ў працу душу ўкладаюць. Ледзь паспяваем ставіць ім заданні.

— Супольна пачалі мы гэтую інвестыцыю і ўсе разам яе скончым. Гэта наш уваход у XXI стагоддзе, — заўважае метафарычна бурмістр.

Інжынер Яўген Беразавец тлумачыць яшчэ, што намнога горшае за раскопкі надвор'е. У выніку разводдзя ўжо двойчы вада размывала масток. Усё ж такі праца завершыцца тэрмінова, значыць 30 кастрычніка, як прадугледжвае дамова з выканаўцам.

Размова зыходзіць на тое, якая будзе паверхня вуліцы (г.зв. польбрук), ці пракладзены будзе газапровад, а нават ці будзе пабудавана вадасховішча, каб ужо не залівала агародаў. Адчуваецца агульная палёгка. Жыхары ветліва запрашаюць на наступныя такія сяброўскія сустрэчы.

Калі выходзім з панадворка, Юры Мацейчук забягае ў выемку. Праз некалькі хвілін на мае развітальныя словы акідае мяне непрысутным позіркам і ківае галавою. Усёй сваёй істотай ён акунуўся ў X стагоддзе.

**Алег Латышонак**

# Нашы паслы

Колькі „нашых" будзе ў Сейме Рэчы Паспалітай? — такое пытанне ставяць сябе штораз часцей беларускія дзеячы на Беласточчыне. Аптымісты гавораць, што пасля 21 верасня будзе можна стварыць беларускі пасольскі гурток, а песімісты лічаць, што незалежна ад выбарчых вынікаў, нішто не дае падстаў для таго, каб гаварыць пра беларускага пасла, таму што не існуе Беларускі выбарчы камітэт.

Праўдападобна паслом стане лідэр БГКТ Ян Сычэўскі, які, як вядома з неафіцыйных крыніц, зойме высокае месца на краёвым спіску Саюза левых дэмакратаў. На рэкламнай лістоўцы Сычэўскі пераконвае, што ёсць добра, а будзе яшчэ лепш (лозунг СЛД). З яго выбарчай праграмы вынікае, што калі стане паслом, дачакаемся дабрабыту і дэмакратыі. Мы ведаем таксама, што ў парламенцкай працы Сычэўскі асабліва будзе клапаціцца пра „аб'ектыўнасць" і „праўду" ў сродках масавай інфармацыі. Згодна з найлепшымі традыцыямі Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Яўген Чыквін, які ўзначальвае спісак славянскай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, таксама мае вялікі шанц стаць паслом. Будзе ён, безумоўна, галоўным канкурэнтам прэм'ер-міністра Уладзімежа Цімашэвіча ў змаганні за галасы „нашага" электарату. Выбаршчык, які да гэтай пары з закрытымі вачамі галасаваў заўсёды на левых дэмакратаў, цяпер атрымаў прапанову аддаць голас за арганізацыю, якая спасылаецца на пачуццё цывілізацыйнай і рэлігійнай супольнасці. Канструяваныя на падобнай логіцы лозунгі ў Рэспубліцы Беларусь аказаліся вельмі прывабнымі для тамашніх беларусаў. Тут маем такі сам народ, з вельмі падобным менталітэтам. Таму левыя дэмакраты, калі нічога не памяняецца, будуць мець вельмі моцных канкурэнтаў у выглядзе кандыдатаў са спіска Выбарчага камітэта славянскай нацыянальнай меншасці.

Трэці кандыдат, які можа стаць паслом, старшыня Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай Яўген Вапа, хаця прымае ўдзел у выбарах са спіска Уніі працы, адклікаецца да нацыянальна свядомых беларусаў. Як паказалі папярэднія выбары, такіх, тут на Беласточчыне, прыблізна такі сам працэнт сярод грамадства як у суседняй Беларусі. Вапа вядзе даволі адкрытую выбарчую кампанію, інфармуючы ў сродках масавай інфармацыі пра ход дыскусіі з палітычным партнёрам наконт месца на акруговым і краёвым спісках, а таксама пра галоўныя прынцыпы супрацоўніцтва. З яго выбарчай лістоўкі вынікае, што перш за ўсё выступае ён за паніжэнне падаткаў для найбяднейшых грамадзян краіны. За ўсё цяпер трэба плаціць — за школу, медыцынскія паслугі, культуру — таму высокія падаткі зусім страцілі сэнс. Лідэр Беларускага саюза мае другое месца на акруговым і дванаццатае на краёвым спісках Уніі працы.

У гэтым годзе кожны выбаршчык з беларускага асяроддзя, нягледзячы на тое ці адчувае сябе ён беларусам, ці нейкім славянам, тутэйшым, камуністам, лэмкам, рускім, украінцам ці палякам, ужо атрымаў прапанову. Для некаторых выбар можа аказацца вельмі складаным. Розніцы ў праграмах паасобных кандыдатаў не надта выразныя. Таму не адзін „наш чалавек" засумуе за эпохай, калі ўсё было намнога больш простае — адзін кандыдат, на якога абавязкова трэба было аддаць свой голас. Назначалі яго нейкія людзі ў камітэтах. Цяпер дэмакратыя ад звычайнага грамадзяніна патрабуе, каб з некалькіх дзесяткаў кандыдатаў паказаў ён аднаго, таго найлепшага. Ужо цяпер некаторыя гавораць, што гэта ім не пад сілу. Адкуль вядома хто найлепшы? Раней таксама ўсе шмат абяцалі, але што з гэтага пасля атрымалася.

**(рэд.)**

# На канікулы — у Будапешт

Яшчэ дзесяць гадоў таму Будапешт быў найбольш вядомай у Польшчы мэтай гандлёвай турыстыкі. На базарах, у падземельных пераходах мадзьярскія цыганы спрытна лічылі па-польску, дасканала арыентаваліся ў вартасці злотаў і цэнах тавараў у нашых крамах. Польская мова была другой, пасля венгерскай, на вуліцах гэтага горада.

Разам з адыходам рэальнага сацыялізму згубіў значэнне міжнародны гандаль у валізках. Палякі цяпер едуць, перш-наперш, туды, дзе ёсць праца: у Бельгію, Нямеччыну, Злучаныя Штаты. Або туды, дзе ў камфартабельных умовах можна адпачыць за зароблены ў сябе дома грошы: Іспанію, Італію, Грэцыю. Будапешт неяк перастаў цікавіць палякаў. Хаця з Варшавы туды ўсяго васемсот кіламетраў, няма ніводнага рэйсавага аўтобуса. Ходзяць, праўда, два цягнікі ў суткі, але білет у два бакі каштуе амаль 400 злотаў.

Танней і больш прыемна, асабліва калі не спяшаеш, ехаць на машыне. З начлегам на Славаччыне, дзе можна знайсці двухмесны пакой у матэлі за няцэлыя 50 злотаў, а ежа і піва наколькі смачныя, настолькі і недарагія. Але, каму спешна, у Будапешт не цяжка даехаць і за адзін дзень.

Хаця ў Будапешце амаль не чуваць сёння польскай мовы, не згубіў ён свайго гандлёвага характару. Каля самага блізкага ад майго гатэля ўвахода ў метро паліцыя кожнай раніцы правярала дакументы гандлюючых нейкімі шмоткамі і перцам, ганяла іх, а ўсё роўна пасля поўдня пляц і падземны пераход кішэў дзелавым народам, які яўна не меў ніякага дачынення ні да падаткаў, ні да якіх-колечы афіцыйных дазволаў. Жыццё, рух, сумятня ў гэтым месцы працягваліся да позняй ночы. А некалькі бараў і ларкоў у навакольлі, нягледзячы на тое, што квартал гэты даволі перыферыйны, працавалі кругласутачна.

У цэнтры Пешта, на найбольш вядомай вуліцы Ваць, з элегантнымі крамамі і рэстаранамі, натоўпы людзей ад поўдня і далёка за поўнач. Гэта пешаходная зона, якая жыве, у вялікай ступені, з турыстаў. Тут і ў бліжэйшай ваколіцы кожны мадзьяр хоць крыху ведае англійскую і абавязкова нямецкую мовы. Так што знікае бездапаможнасць, якая паяўляецца на першыя угра-фінскія гукі венгерскай мовы, з якой не разумееш ані слова. Але, з другога боку, часам добра адключыцца ад штодзённых клопатаў, абавязкаў, рознага тыпу змаганняў, выбараў і г.д., і т.п.

Ідзеш сабе люднай вуліцай, ні табе тут няма да нікога ніякай справы, ні цябе ніхто не чапае. Любуешся прыгожай архітэктурай і прывабнымі венгеркамі (найпрыгажэйшая нацыя ў свеце, прынамсі, калі браць пад увагу слабейшую палову), заходзіш у забягалаўкі, каб асвяжыцца сухім белым віном, або падмацавацца чырвоным і мясцовай кухняй, раўняцца з якой могуць толькі нешматлікія. Венгры смяюцца, што пасля колішніх перамог у футболе і боксе, цяпер застаўся ім адзін нацыянальны спорт — ежа. Таму любяць есці многа, тлуста і востра (нездарова, але як жа смачна!), паліваючы свае гуляшы і адмысловыя соусы літрамі віна.

Ежа ў рэстаранах Будапешта не толькі смачная, але і адносна танная. Двум асобам можна добра паабедаць (павячэраць) у шыкарным рэстаране ў цэнтры горада за сто злотаў, а ў звычайным — тым не менш, смачна — і за дваццаць. Вядома, з віном.

Прыгожыя дзяўчаты, сытная кухня, смачнае віно — усё гэта дапаўняе цудоўны горад, яго распалажэнне паабапал Дуная і архітэктура. Каралеўская Буда на правым беразе ракі — на ўзгорках, некалькі з якіх дасягаюць паўкіламетровай вышыні. На іх схілах спакойныя рэзідэнцыі, вілы ў зелені. На левым беразе — гандлёва-прамысловы Пешт, які шпарка развінуўся ў мінулым стагоддзі, становячыся ў пачатку нашага адным з большых гарадоў у Еўропе. Цэнтр і сёння захоўвае тагачасны характар. Вуліцы толькі мянялі свае назвы пры розных акупантах, але іх план заставаўся той самы. Найбольш вядомыя будынкі і масты аднаўляліся пасля кожнага разрушэння, пасля франтоў і паўстанняў. Таму і сёння візітнай карткай горада з'яўляюцца пабудаваныя пры Габсбургах Парламент, Каралеўскі замак, Опера ці Ланцуговы мост.

У Будапешце ёсць што паглядзець, дзе добра адпачыць і пагуляць.

**Мікола Ваўранюк**



*Парламент і Ланцуговы мост у Будапешце.*

# Сядзім мы сабе на Каперніка...

У Польшчу прыехаў я з братам — ён паехаў пад нямецкую мяжу, а я застаўся ў Беластоку, каб наведаць знаёмых. Была праваслаўная Каляда. І адразу скажу, што ў гэты дзень кішэнныя злодзеі выдатна зрабілі сваю справу. Беласток жа не горшы за Варшаву. У мяне было каля трох тысяч баксаў. Ачысцілі мяне датла ў аўтобусе. Засталося ўсяго паўмільёна старых польскіх, якія я трымаў у іншым месцы.

Зайшоў я на піва, каб падумаць, што далей рабіць. Там пазнаёміўся з двума хлопцамі, якім і расказаў пра сваю бяду. Слухай, по problem, кажуць мне. З'ездзім да маёй бабкі на вёску, дзе пагрэемся і правядзем Каляду. Ладна, мы паехалі.

Едзем, едзем, заехалі на апошні прыпынак — ужо за Беластокам. Далей ідзем. Ну, бляха, якая ж тут вёска. Лес і поле. Але зараз жа убачылі святло. Гэта была крама. Пастой тут, кажуць мне, а мы аформім адну справу і пойдзем далей. Ого, думаю, папаўся я і кажу ім, што ў гэткія дзелушка не гуляю. А яны мне, што зараз-зараз, не трэба так пэнкаць. Пакуль мы перагаварыліся, на нас наехала двух мужыкоў — былі гэта, бадай, уласнік крамы са шваграм. Тыя, што майстравалі пры краме далі драла ў лес, а мяне схапілі. Здорава пабілі, можа і забілі б, але прыехала паліцыя і я адчуў палёгку.

Засудзілі мяне на часовы арышт, але вось, калі паліцыя перавезла мяне на Каперніка, то тыя адмовіліся прыняць — кішэннікі з грашыма свіснулі ў мяне дакументы і афіцыйна мая тоеснасць не была яшчэ ўстаноўленай. У беларускім консульстве ў Беластоку нібыта сапсаваліся камп'ютэры і ў гэтай справе трэба было звярнуцца ў пасольства Беларусі ў Варшаве. Я вярнуўся ў камісарыят на Бэма. Там прасядзеў аж 20 дзён. Усе працаўнікі паспелі са мной пазнаёміцца і называлі мяне камбатантам або ветэранам.

Калі высветлілася мая тоеснасць, дык трапіў нарэшце на Каперніка. Спачатку ў варшавіяну — гэта такая камера, дзе людзей дзеляць на гатункі, каго куды. З былога Саюза 95 працэнтаў сядзіць там за машыны. Астатнія — рэкецёры. А я апынуўся там у якасці самага вялікага злодзея.

Асноўны падзел людзей у турме — на грыпсуючых і негрыпсуючых. Грыпсуючыя першымі бяруць ежу, ядуць асобна, не працуюць. У такога можаш папрасіць усяго, але ён у цябе не просіць нічога.

З варшавіяны трапіў я на чацвёрты аддзел, дзе склад быў міжнародны: пакістанец, двух рускіх, чачэнцы, я і палякі. Найбольш бунтаваліся чачэнцы — яны ж бізнесмены і не маглі пагадзіцца, што замест рабіць свой бізнес сядзяць у турме. А вось пакістанец трапіў туды за нелегальнае перасячэнне польскай мяжы. Ён з групай суродзічаў прыляцеў з Карачы ў Алма-Ату, з Алма-Аты ў Маскву, з Масквы ў Мінск, а з Мінска на машыне ў Гродна. Паляк і адзін рускі з Гродна, якія ўзялі з іх па дзве тысячы баксаў, вывезлі ў лес і сказалі „пачакайце тут крыху". Ну і чэсць! Калі ідзе пра рускіх, то кім бы ён ні быў — у турме на кожнага кажуць „мафія".

У турме раз у тыдзень хадзілі ў бібліятэку, хадзілі на святліцу, можна было хадзіць і на літургію, але раней трэба было падаць выхаваўцу заяўку. Аднаго разу нехта нават прашмугляваў у бохне хлеба сотавы тэлефон у турму — я скарыстаў і пазваніў з яго ў Мінск. Потым прачытаў у газеце, што Багсік у сваёй камеры меў электрычныя клавішы і займаўся музыкай. Я папрасіў у выхаваўцы гітару, бо ў турме гібела і маё натхненне. Гітара, нібыта, была, але не ўсе струны ў ёй. Выхаваўца кажа затое, каб я пайшоў на кайфуса (чалавек, які выдае ежу), бо ведаю польскую мову. А мне ежы не бракуе, адказваю яму — пайду, але за гітару. Інструмент аказаўся ў суседняй камеры. Я сабраў крыху цыгарэт і гітара перайшла ў мае рукі.

Іграй, крычаць мне турэмшчыкі, а мы будзем глядзець на палацык. Палацык — гэта аддзяленне, у якім сядзяць жанчыны. І я ім іграў — раманы, „Брадзягу", „Легіёны", бандыцкія і шмат чаго іншага. Часамі выходзіў пайграць у святліцу — слухаць прыходзілі і турэмшчыкі, і клавішы. Тыя апошнія то і шкадавалі, калі я выходзіў пасля паўгода, што не будзе каму пайграць. Але мне на свабодзе лепш.

**Запісаў Аляксандр Максімюк**

# Вялікая вада

Вада заліла поўдзень Польшчы. У тэлебачанні паказвалі, як у гарадах, дзе дзесяткі пакаленняў сотні гадоў стваралі нейкую культурную інфраструктуру, раптам усё апынулася пад бруднай вадою. Найбольш страшнае гэта тое, што ў некаторых мясцовасцях людзі пару дзён раней ведалі пра набліжаючуюся хвалю і не маглі нічога зрабіць, каб паўстрымаць катаклізм. Дзяржаўныя службы, якія, як бы былі створаны для палагоджання паслядоўнасцей такой катастрофы, аказаліся бязрадными, не падрыхтаванымі, разгубленымі. Яшчэ раз аказалася, што людзі ў няшчасці могуць лічыць перш за ўсё толькі на сябе і на выпадковых добразычліўцаў.

Усе антыкрызісныя штабы і сродкі, якімі яны распараджаліся, аказаліся толькі фактарамі, існуючымі на паперы. Абазначае гэта, што грамадскія грошы, якія накіроўваліся на ўтрыманне такіх службаў, былі зусім патрачаны. З перспектывы часу відаць, што падаткі замест на бюракратаў павінны быць выкарыстаны на стварэнне запасу сродкаў, якія дазволілі б кожнаму чалавеку самому ратаваць жыццё і маёмасць.

Чакаючы вялікай вады, жыхары Вроцлава рабілі тамы, каб стрымаць плынь вады на сваю вуліцу. Аказалася, што гэта вельмі пагоршвала сітуацыю. Вада акружала будынкі і ўлівалася з другога боку тамы, часам вокнамі кватэр з першага паверха. На вачах мільёнаў гледачоў разыгрывалася драма жыхароў дзесяткаў гарадоў і пару сацень вёсак. А ўсё па прычыне дажджу, які ішоў толькі 20 гадзін. Аказваецца, непатрэбныя ніякая вайна ні землятрус, а толькі больш дожджык, каб прывесці вялікія абшары ў стан цалкавітай руіны, каб за некалькі хвілін людзі патрацілі ўсё, што выпрацавалі на працягу ўсяго свайго жыцця.

**(ям)**

# Зорка
## старонка для дзяцей

Словы падзякі ўдзельнікі і арганізатары кіруюць дырэктарам пачатковых школ: у Кнарыдах — Сцяпану Стральчуку і ў Орлі — Яўгеніі Васілюк, настаўніцы Анне Шыманскай, жыхарам Студзіводаў, Кнарыд і Дубяжына.



*Скансэн Дарафея Фіёніка. Перад выхадам у падарожжа.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

У днях 8-13 ліпеня г.г. праходзілі XI Сустрэчы „Зоркі". Удзельнічала ў іх 38 асоб — з Бельска-Падляшскага, Студзіводаў, Ягуштова, Рыбалаў, Падрэчанаў, Макаўкі, Тафілаўцаў, Елянкі, Гайнаўкі, Белавежы, Гарадка, Беластока, Варшавы і Гданьска. На працягу шасці дзён дзеці працавалі ў наступных групах: мастацкай (пад кірункам Алега Кабзара і Яраслава Якімчука), краязнаўчай (пад кірункам Дарафея Фіёніка і Валянціны Бабулевіч), этнаграфічна-журналісцкай (пад кірункам Ганны Кандрацюк-Свярубскай).

За два першыя дні дзеці размалявалі каляровы крыж і паставілі яго ў Студзіводах. Далей (10-13.07) сустрэчы праходзілі ў навакольных вёсках.

Мэтай вандроўкі былі пошукі этнаграфічнага, краязнаўчага і гістарычнага матэрыялаў. Удзельнікі сустрэліся з самадзейнікамі і энтузіястамі народнай творчасці, калектывамі „Бярозкі" з Кнарыд і „Родына" з Дубяжына.

Дзеці запісвалі старыя песні, легенды, назвы палёў і ўрочышчаў, надпісы на прыдарожных крыжах у Студзіводах, Піліках, Кнарыдах, Мокрым, Дубяжыне, Тапчыкалах, Кашалях.

Рэйд завяршыўся ўрачыстай вячэрынай у Орлі, дзе ўдзельнікі паказалі частку плёну сваёй вандроўкі.

Арганізатары: Рэдакцыя „Зоркі" і Беларускі саюз у РП (праект „Бельск-Падляшскі — сэрца памежжа") сардэчна дзякуюць спонсарам:

**Фонду Стэфана Баторыя**
**Польскаму фонду дзяцей і моладзі**
**Радзе бацькоў ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**
**Гміннай управе ў Бельску-Падляшскім**
**Гміннай управе ў Орлі.**

# XI Сустрэчы

## Легенда пра крыж

Было гэта каля 1820 г. У вёсцы Студзіводы панавала эпідэмія халеры. Каб выгнаць заразу, людзі рашылі зрабіць за адну ноч крыж. Мужчыны паехалі ў лес і прывезлі хвою на крыж. Жанчыны напралі ільну і саткалі ручнік. Калі ўзышло сонца, усе пайшлі ў царкву. Вечарам паставілі крыж і аздобілі яго сатканым ручніком. Сваю задачу закончылі перад усходам сонца. Яшчэ і на наступны дзень людзі нічога не елі і не кармілі жывіну. І толькі пасля заходу сонца крыху паелі. Пасля ўзнясення крыжа за здароўе жыхары Студзіводаў ужо не хварэлі.

Гэту легенду пачула я ад васьмідзесяцічатырохгадовай жыхаркі Студзіводаў Надзеі Марціновіч.

**Марта ФЕДАРУК**
**кл. VII „ц" бельскай „тройкі"**



*Марта Федарук расказвае легенду пра крыж. Ззаду дзяўчынкі відаць гэты ж легендарны крыж.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Студзіводы

У цяперашнім этнакультурным краявідзе Бельска ёсць бадай толькі два месцы, якія захавалі свой вялікі, сфармаваны вобраз. Гэта вуліцы Дубічы ды раён Студзіводы. Студзіводы, пакуль каля 1960 г. былі ўключаны ў адміністрацыйны састаў горада, лічыліся вёскай. Іх выгляд і менталітэт людзей пакуль яшчэ вясковы. Было гэта паселішча аднак заўжды цесна звязанае з Бельскам і яго праблемамі. Бельску, дарэчы, і абавязаны Студзіводы ў сваім заснаванні.

Ужо каля 1510 г. на рачулцы, што працякала праз урочышча Гай, горадам быў узведзены млын. У 1520 г. млын гэты адкупіў ад Бельска знатны бельскі купец Іван Сегяневіч. Пасля „жереб земли Студиводскій" перанялі яго сын Лаўрэнцій ды ўнук Якім. Гэты апошні, відаць, адпрадаў маёнтак Абраму Вішаватаму, які лічыцца ўласнікам Студзіводаў у 1580 г. Трыста метраў на поўдзень ад двара пачало развівацца паселішча, якое ў 1641 годзе налічвала 10 дамоў.

Доўга Студзіводы не маглі падняцца са знішчэнняў II пал. XVII ст. Паводле „Візітацыі" Прачысценскай царквы ў Бельску ад 1774 г., пражывала тут 59 беларусаў-уніятаў. Апрача таго было 1-2 сем'і каталіцкія. Лік жыхароў паступова ўзрастаў і ў 1847 г. дасягнуў ста асоб.

Пасля вызвалення з прыгону цяжка было „студзівуодцям" размахнуцца на слабенькіх, пясчаных ды балоцістых землях. Змены на лепшае наступілі ў канцы XIX ст., калі... абанкруціўся памешчык Маркель Сумінскі і пачаў, праз даверанага бельскага жыда Рубіна Зыльберштайна распрадаваць маёнтак. Вядома, найбольш пакупнікоў на студзіводскую зямлю знайшлося сярод жыхароў багатых гарадскіх вёсак. Студзіводскія гаспадары: Кірылюкі, Сахарэвічы, Панасюкі, Асташэўскія, Гулевічы, каб лепш прабіцца, заснавалі „Товарищество" ў 24 асобы і ў 1899 г. купілі 41 дзесяціну зямлі з-пад вырубленага лесу (да сёння гэтае поле называюць Порубамі або Вырубамі).

У жніўні 1915 г., пасля выезду ў бежанства, на студзіводскіх палях разыгралася вялікая руска-нямецкая бітва. Напамінаюць пра гэта ваенныя могілкі ў цэнтры паселішча, на якіх спачывае 810 нямецкіх ды 200 рускіх салдат.

У міжваенны час небагатыя „студзівуодці" ад бельскіх жыдоў навучыліся прырабляць валёнкамі. Яшка Асташэўскі заснаваў тут нават неблагую „валярню". Апрача вырабу валёнкаў Студзіводы ў свой час славіліся музыкантамі: братамі Стэпанюкамі ды перш за ўсё Юхімам Кірылюком — першым скрыпачом у Бельскім павеце.

**Мікола САХАРЭВІЧ**

# Што мы рабілі?

**Этнаграфічная група**

Мэтай групы быў пошук аўтэнтычнай народнай творчасці — песень і легенд. Дзеці вучыліся таксама запісваць сабраны матэрыял. Плёнам пошукаў стаў багаты матэрыял, які неўзабаве будзем друкаваць у „Зорцы”.

Паказалася, што сярод нас жывуць старыя людзі, якія могуць многаму нас навучыць, многае нам перадаць.

— Вы гэтага і так не зразумееце, — часта гаварылі старэчы, якія сёння жывуць за мяжой незразумення.



*Устанавіць крыж дапамагалі мужчыны са Студзіводаў.*



*Ева Мароз-Кэчыньска (этнограф) і Ала Асташэвіч з Ягуштова запісваюць сабраныя песні.*

# Зоркі”

**8 — 13 ліпеня 1997 г.**
**Бельшчына**

Мне, як апякунцы этнаграфічна-журналісцкай групы, прыемна было назіраць вялікую зацікаўленасць маладых людзей да спадчыны продкаў. Сутыкненні са своеасаблівай эстэтыкай не толькі вучылі, але і настройвалі. Пра гэта сведчыць хаця б рэпертуар песень на Сустрэчах. Гітам XI Сустрэч „Зоркі” сталі песні „Коноплі”, „Ой на горы, на доліні”, „Ой пуойду я на той ганок” і „Город”.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

* * *

**Коноплі**

*(хрысцінная са Студзіводаў)*

Ой і кум до кумы заліцяецця,
Конопэлькі вуон сіяті обіцяецця.
Вуон сіяв, присівав, присіваючы казав:
кругом свіэта хороша”.

Ой і кум до кумы заліцяецця,
Конопэлькі обіваті обіцяецця.
Вуон і бів, прыбівав,
прыбіваючы казав:
„Ты кума, ты душа,
кругом свіэта хороша”.

Ой і кум до кумы заліцяецця,
Конопэлькі выстілаті обіцяецця.
Вуон і слав, прысцілав,
прысцілаючы казав:
„Ты кума, ты душа,
кругом свіэта хороша.

Ой і кум до кумы заліцяецця,
Конопэлькі вуон збіраті
обіцяецця.
Вуон збірав, прыбірав,
прыбіраючы казав:
„Ты кума, ты душа,
кругом свіэта хороша”.

Ой і кум до кумы заліцяецця,
Конопэлькі прорываті обіцяецця.
Вуон ірвав, прорывав,
прорываючы казав:
„Ты кума, ты душа,
кругом свіэта хороша”.

Ой і кум до кумы заліцяецця,
Конопэлькі вырываті обіцяецця.
Вуон ірвав, вырывав,
вырываючы казав:
„Ты кума, ты душа,
„Ты кума, ты душа,
кругом свіэта хороша”.

Ой і кум до кумы заліцяецця,
Конопэлькі вуон мочыті обіцяецця.
Вуон мочыв, прымочав,
прымочаючы казав:
„Ты кума, ты душа,
кругом свіэта хороша”.

Ой і кум до кумы заліцяецця,
Конопэлькі вуон трэпаті
обіцяецця.
Вуон трэпав, прытрэпляв,
прытрэпляючы казав:
„Ты кума, ты душа,
кругом свіэта хороша”.

Ой і кум до кумы заліцяецця,
Копопэлькі вуон тэрті обіцяецця.
Вуон і тэр, прытірав,
прытіраючы казав:
„Ты кума, ты душа,
кругом свіэта хороша”.

Ой і кум до кумы заліцяецця,
Конопэлькі вуон і ткаті обіцяецця.
Вуон і ткав, прытыкав,
прытыкаючы казав:
„Ты кума, ты душа,
кругом свіэта хороша”.

Гэту песню этнаграфічная група запісала 9 ліпеня 1997 г. ад Надзеі Марціновіч — 84-гадовай жыхаркі Студзіводаў, якая 50 гадоў жыла ў Красным Сяле.

У песні „Коноплі” паказаны ўсе дзеянні, звязаныя з апрацоўкай канапель. У такі прывабны спосаб пераказваліся маладым людзям веды звязаныя з гаспадаркай і сям'ёй.

**Мастацкая група**

мела таксама цікавую праграму. Пад кірункам мастака Алега Кабзара дзеці размалявалі (з двух бакоў) каляровы крыж. У Студзіводах зараз красуецца рознакаляровы ў блакітным адценні чарговы крыж, выкананы ўдзельнікамі Сустрэч „Зоркі”. Варта дадаць, што ўстанаўленне і пасвячэнне крыжа было падзеяй для ўсёй вёскі і многіх жыхароў Бельска-Падляшскага.

На працягу наступных дзён мастацкая група малявала этнаграфічныя цікавінкі — старыя хаты, каплічкі, крыжы. У „Зорцы” друкуем здымак крыжа са Студзіводаў.

**Зорка**

**Краязнаўчая група**

Частка з нас працавала ў краязнаўчай групе. З нашым апекуном Дарафеем Фіёнікам мы хацелі даведацца пра даўнія назвы ўрочышчаў вакол вёсак, праз якія мы праходзілі. Пра гэта мы пыталіся ў жыхароў вёсак. У Піліках нам расказваў Павел Печынскі, а ў Кнарыдах — Ян Парфянюк.

Назвы ўрочышчаў маюць сваю гісторыю. Напрыклад, каля Пілік ёсць урочышча Распадлы Камень. Гэта назва паўстала праўдападобна ад каменя, які паволі распадаўся. Многа назваў паўстала ад прозвішчаў іх уласнікаў. Напрыклад, Малешкоўшчына, Завілоўшчына-Лес. Лясы вакол Кнарыд — гэта Крыночка, Селбовець. Большасць гэтых назваў мае беларускае паходжанне.

Калісьці назвы ўрочышчаў былі патрэбны для людзей. Гаспадары дамаўляліся, што сустрэнуцца, напрыклад, на Вялікім Полі. Цяпер гэты звычай амаль поўнасцю загінуў.

Думаю, што мы павінны прыпомніць гэтыя назвы, каб не забыць аб нашай гісторыі.

**Міхась Стэпанюк**
**кл. VII „е” бельскай „тройкі”**

*Фота Ганны Кандрацюк*



*Памятны здымак з кабетамі з Пілік.*



*Незабыўнай была вечарына з калектывам „Родына” з Дубяжына.*

# Гаварыць па-свойму

Наведаў я Барыслава Рудкоўскага, адметнага даследчыка нашай мінуўшчыны. Размова пайшла ад нядаўна выдадзенай ягонага аўтарства кнігі пра тапаграфію дарог і помнікаў Бельшчыны. А ўсё пачалося з таго, калі сп. Б. Рудкоўскі адышоў на ранейшую, „збавідоўскую", пенсію. Прыйшла яму думка дакументаваць нашу бытнасць на гэтай зямлі: усе праваслаўныя аб'екты і апрача іх яшчэ помнікі з надпісамі нават на старажытнаславянскай мове. Знайшліся людзі, якія зацікавіліся гэтай праблематыкай: Мікалай Навіцкі з Ягуштова і Дзмітрый Вязоўскі — ён не шкадаваў свае машыны на паездкі, памагаў мераць. А ўсе даныя з вёскі Крывая даў юрыст Пятро Юшчук — *мудры, добры чалавек.*

— Я перш за ўсё, — кажа сп. Рудкоўскі, — хацеў зрабіць тапанімічныя карты тэрыторыі, заселеный усходнеславянскімі плямёнамі — „тутэйшымі". Гэта даволі складаная справа; вось, напрыклад, на 53-й стар. ёсць карта Бельска-Падляшскага — я не паставіў на ёй ніводнага дома, каб не зацямняць назваў. Бо назвы тут вельмі важныя: вось за назвы *Покутна* і *Тосканія* заплаціў я аднаму чалавеку вельмі вялікія грошы, каб ён паказаў мне свой архіў і растлумачыў назвы. Возьмем для прыкладу раку *Сэрэд*: вось адзін архітэктар напісаў кніжку пра Бельск, якога „не знаем", і ў ёй адна хлусня! Рэчку *Крыніца* ён назваў *Сэрэдом*, а рэчка *Сэрэд* знаходзіцца за праваслаўнымі могілкамі і, як я прачытаў у старых архівах царскай арміі, там у 1863 г. адбылася паніхіда па загінуўшых на *Суздальскай пераправе*, на Арлянцы за Галадамі, бо тады ездзілі па грунтовай дарозе *Стенка*, што на поўдзень ад Крывой. А на поўнач ад Крывой была дарога, якая называлася Царскім Гасцінцам — быў гэта паштовы тракт, па якім ніхто, апрача ямшчыкоў, не меў права ездзіць! У другім выданні кнігі я вельмі падрабязна напісаў пра той Царскі Гасцінец і хачу, каб нехта напісаў сцэнарый для фільма, як тыя ямшчыкі ездзілі.

А чаму назва *Покутна*? За „Эльвай" па левы бок шашы стаіць драўляны крыж, і там вялікія ямы. Прачытаў я ў летапісе, што калі паўстаў Бельск, дык там выбрана месца на пакаранне ўсіх злачынцаў, якіх заганялі ў тую яму, расстрэльвалі, кідалі на фурманкі і вывозілі. Апошняе пакаранне адбылося тут у 1916-м або 17-м годзе. Яўрэі тады перабіраліся ў аўстрыйскія мундзіры, было іх чатырнаццаць чалавек, і ездзілі па навакольных вёсках, найперш у Відаве, і забіралі ад сялян жывёлу. Людзі паскардзіліся аўстрыйскаму каменданту, той сарганізаваў з салдат засаду ў клуні каля рэчкі, а ў цывільным выслаў назіральнікаў, каб сачылі за тым, што дзеецца ў вёсцы. Ну і прыехалі тыя падшыванцы, гергечуць па-яўрэйску, як аўстрыйцы, і іх злавілі і тут жа расстралялі.

А вось назва *Тосканія*; яна ўзнікла адтуль, што калісь каля праневіцкіх могілак праходзіла дарога, якая даходзіла да сённяшняй шашы ў Беласток. А проста не маглі ехаць, бо было там страшнае балота, у якім коні тапіліся і людзей ахоплівала *тоска*, бо не было як праехаць у Бельск.

Другое выданне кніжкі будзе яшчэ багацейшае, бо ў ім знойдзецца тое, чаго не было ў першым. Калі я напішу ўсе тыя назвы, якіх мала ўжо хто хоча бачыць, гэта будзе сведчаннем праўды. Бо пісаная гісторыя — несправядлівая і подлая, гэта энцыклапедыя хлусні, якой змест залежыць ад таго, хто яе піша. А хопіць пазнаць усе тыя помнікі, што я пазнаў і апісаў — тут кожнае слова праверанае і праўдзівае. Я вельмі ўдзячны Мікалаю Гайдуку, што ён раскрыў праўду пра К. К. з Мастаўлян, якога да нядаўна лічылі святым беларусаў. А ён у сапраўднасці быў катам беларускага народа і праваслаўя, і не думаў ён будаваць Беларусі, а праваслаўную веру называў „пся вяра". У Суражы замучыў ён Канстанціна Пракаповіча, здзіраючы яму скуру з галавы. А ў Бранску распяў на плоце Кургановіча з Пружанам разам з ягоным фурманам.

Вось зрабіў я графіку нямецкага крыжа, што на могілках пры вул. Белавежскай. Пад ім ляжыць малады чалавек, бо старых у армію не бралі, у чужой зямлі. Аддаў сваё маладое жыццё за нішто, за тое, што камусь захацелася быць слаўным. Салдат ніколі не вінаўны таму, што ён салдат; ён з'яўляецца ахвярай тых, што сядзяць і важнічаюць у вярхах.

Яшчэ я заняўся аховай геамарфалагічных аб'ектаў — горак, якіх многа, напрыклад у Гацьках. Вельмі цікавая *Лісія Горка* за Праневічамі. А далей *Князя Горка*, якую калісь шукаў Гайдук, але не мог яе знайсці; а я вось яе знайшоў і апісаў.

Жыў калісь у Падбеллі рускі генерал Жалтухін. Калі будавалі чыгунку, ён пазволіў пракласці яе цераз сваё поле. А вось каля Сямятыч адзін шляхціц не пазволіў, і Сямятычы чыгункі не маюць, а гэта ж асноўны цяжкі транспарт, а не аўтамабілі. Ад аўтамабіляў толькі экалагічнай гібелі чакаць. Вось парушэнне экалогіі даводзіць да засух і паводак; тое, што сёння адбываецца, гэта вынік дзейнасці чалавека.

Паехаў я аднойчы на тэрыторыю Арлянскай гміны, на ўзгорак *Онтрахоўшчына*, на поўнач ад Тапчыкалаў. Там у вайну немцы закапалі тры танкі і вельмі многа рускіх пабілі, якіх пахавалі на арлянскіх могілках. Таксама каля Спічак, на ўзгорку 173.3, каля *Кліночка*, праходзілі цяжкія баі.

Зацікавіўся я і Волькай. Паехаў я ў вёску спытаць, ці хто з жыхароў мае памяць, адкуль тыя людзі паходзяць. Аказваецца, што з Вырвачкі! А што сталася з Вырвачкаю? Мне гэта расказаў Мікалай Ляшчынскі, які цікавіўся яе гісторыяй. Вёска Вырвачка была калісь там, дзе цяпер арлянскія могілкі. Калісь адзін чалавек купіў быка, а той бык прынёс нейкую страшную заразу; усе сталі ўміраць. Спачатку ўсе сабраліся ва ўрочышчы *Клін*, куды арляне прыносілі ім ежу. Пасля гэтае ўрочышча назвалі *Клін Мордані*, таму, што была даніна на мор. А пасля частка людзей перасялілася ў Вольку, а Вырвачку спалілі. Вырвачкай яшчэ называлася невялікая рачулка, якая працякала каля яўрэйскіх могілак. А тыя яўрэйскія могілкі трэба абгарадзіць і помніць, што там людзі ляжаць, а не пасвіць там дабытак.

Вяртаючыся з Орлі, паміж Шчытамі-Навадворамі і *Шчытамі-Дэндзёлавом*, зацікавіла мяне рачулка. Распытаў я пра яе; называецца *Озарысок*. Сказалі мне, што калісь на ёй, семсот метраў ад дарогі, быў млын — значыць рэчка была моцная. Узнялася бура; я, супраць ветру, еду па шашы дадому. Гляну я на лічыльнік, а на ім — 86 кіламетраў! Даехаў я яшчэ да ПОМаўскага прыпынку і не меў ужо сілы круціць з горкі. Крышку аддыхаўся і дабраўся дадому; спаў апранутым, бо не хапіла ўжо сілы распрануцца. Так я рабіў свае карты... Я стаўлю сабе пытанне, хто мяне прымушае так пакутаваць, і да сёння не магу знайсці адказу.

У 1991 г. звярнуўся я ў БГКТ, каб далі мне самаход рабіць этнаграфічную карту беларусаў. Пачаў яе, але не закончыў, бо не веру, што калі-небудзь будзе патрэбнай. Раз заехалі ў вёску Турна-Вялікая, зайшлі на панадворак спытаць як называецца рэчачка. На лаўцы сядзела пажылая жанчына, яна не магла нам адказаць, нешта яе давіла ў горле, з вачэй выступілі слёзы. „Вы, свае людзі, гаворыце панашаму", — з хваляваннем прамовіла яна. Вось так людзі адчуваюць той націск, што *па-свойму нельга гаварыць.*

* * *

Вось так, па мясцовасці, а не ў паперах, даследуе нашу мінуўшчыну спадар Рудкоўскі. Не цікавяць яго далёкія героі нашых школьных падручнікаў, толькі тыя людзі, якія тут, у нас, стваралі нашу рэчаіснасць. Такім, дарэчы, з'яўляецца і сам спадар Рудкоўскі, чалавек вялікай дзелавітасці і ідэйнасці. Задзівіла ў ім мяне яшчэ і тое, што ён — не „тутэйшы" — яго продкі зрабілі вялікі круг па Еўропе! А ён, апынуўшыся сярод нас, так карпатліва зацікавіўся сабе новым. Як калісь Уладзімір Даль ці св. Іеранім; яны, аднак, працавалі для пануючай мовы. А спадар Рудкоўскі служыць тым, каму *па-свойму нельга гаварыць.*

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Фэст у Гайнаўцы...

Неба над амфітэатрам у Гайнаўцы ў нядзельны дзень 13 ліпеня зацягнула свінцовымі хмарамі і неўзабаве лінуў густы дождж, якому, здавалася, не будзе канца. Няўмольна набліжалася трынаццатая гадзіна — пачатак народнага фэсту, а неба ўсё яшчэ не праяснялася. Праўда, прадбачлівыя гаспадары расцягнулі над сцэнай і гукаўзмацняльнай апаратурай аграмадны балдахін, аднак з публікі, што хавалася пад парасонамі, засталіся толькі лічаныя асобы. На шчасце з-за хмар вынырнула неўзабаве сонца і асушыла навакольныя лаўкі. Жыхары Гайнаўкі не падвялі і неўзабаве амфітэатр запоўніўся да апошняга месца.

Адкрыла фэст бурмістр горада Ядвіга Рудзіньска-Патэюк, якая прывітала віцэ-консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Паўла Латушку, паслоў у Сейм Рэчы Паспалітай Станіслава Малішэўскага, Мечыслава Пецку і Сяргея Плеву, а таксама кандыдатаў у Сейм новай кадэнцыі — журналіста „Тыднёвай газеты" Збігнева Кшывіцкага і старшыню ГП БГКТ Яна Сычэўскага.

У сваю чаргу Ян Сычэўскі падзякаваў Ядвізе Рудзіньскай-Патэюк, якая з'яўляецца кандыдатам у Сенат РП, гарадской управе і намесніку дырэктара Гайнаўскага дома культуры Ірэне Парфянюк за дапамогу ў падрыхтоўцы фэсту.

Канцэрт павяла Валянціна Ласкевіч. Выступалі чаргова: хор Гайнаўскага дома культуры пад кіраўніцтвам Анны Стрыхі, дзявочы калектыў Гайнаўскага беларускага ліцэя, якім кіруе Бажэна Ляўчук, эстрадныя калектывы „Ас" і „Зубры" з Беластока, а таксама вядомая ўжо не толькі на Беласточчыне „Чарамшына" з Чаромхі.

На фэсце падпісвалі свае паэтычныя кніжкі Янка Целушэцкі і Віктар Швед, які прывёз свой новы зборнік перакладаў на польскую мову „Вершэ выбранэ".

**В. Ш.**

# ... і ў Орлі

Беларускі народны фэст у Орлі — гэта адзінае культурнае мерапрыемства, якое штогод мясцовы Гмінны асяродак культуры (ГОК) арганізуе для жыхароў мястэчка і навакольных вёсак. Нават дэкарацыя прымяняецца тая ж самая, ужо выцвілая, толькі апошняя лічба года на палотнішчы мяняецца. Выгаднасць гэта, лянства ці скнарства?

Аб фэсце можна было даведацца толькі ў апошні момант. Пра інфармацыю і прапаганду мерапрыемства гмінны работнікі культуры не паклапаціліся, хаця гміна была адным са спонсараў свята. Падтрымалі фэст таксама мясцовыя прадпрымальнікі: Лявон Тамчук (уласнік прадуктовай крамы), Марк Хмялеўскі (кавярня „У Марка"), Багдан Гжыбэк (крама і бар), прадпрыемствы „Орляс" і СПіУР (колішні СКР).

Беларускі фэст у Орлі гэта не толькі мерапрыемства культурнае, але і палітычнае. А гэта з-за вядучай імпрэзу Валянціны Ласкевіч, якая расхвальвала асобу старшыні ГП БГКТ Яна Сычэўскага — кандыдата ў паслы Сейма, а потым і войта Міхала Іванчука, які дбае пра культуру. У Орлі народ хаця спакойны і пакорлівы, але думаючы, і палітыку абыходзіць бокам. Людзі апладзіравалі, бо прыйшлі паглядзець каляровыя калектывы і паслухаць песень у іх выкананні.

Войт гміны прывітаў публічна ганаровых гасцей, у ліку якіх былі віцэ-консул Беларусі Павел Латушка, паслы Сейма: Станіслаў Малішэўскі, Мечыслаў Пецка і Сяргей Плева, а таксама Ян Сычэўскі. Старшыня БГКТ у сваю чаргу сардэчна прывітаў публіку, пажадаў ёй многа шчасця і здароўя, прыгадаў словы паэта: „Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" ды сказаў: „Дай Бог, каб дождж не пачаў падаць".

Калі закончыліся афіцыйныя прамовы і перадвыбарчая прапаганда, на сцэну ўвайшлі найлепшыя калектывы Беласточчыны. Спачатку запрэзентаваліся „Чарамшына" з Чаромхі і „Зубры" з Беластока, а іх выступленні зняло Беластоцкае тэлебачанне. Затым паэт і наш зямляк Віктар Швед (ён жа з Мора, што непадалёк Орлі) расказаў пра свой творчы шлях і падпісваў навейшы паэтычны зборнік. Пасля некалькі песень праспяваў мясцовы калектыў „Арляне", які апошнім часам працуе без інструктура. Пахмурнае неба і невялічкі дожджык праясніў калектыў „Ас", які потым іграў на танцавальнай вечарыне. Надта прыгожа спявалі сціплыя „Красуні" з Краснага Сяла, прэзентуючы арыгінальны вясковы фальклор. Завяршыла канцэрт вядомая бельская „Маланка".

На маю думку, скандальным лічу тое, што на беларускім фэсце не хапіла часу на звычайны ўспамін пра 50-гадовы юбілей мясцовага калектыву „Арляне", хаця вядучая не шкадавала кампліментаў чыноўнікам і палітыкам.

**Міхал Мінцэвіч**

# Новыя вершы

Міра Лукша

## Тутэйшы жаўнер

Мой мундзір зялёны, як лісточак,
Як у Семяноўцы над залівам.
Голас у мяне — як званочак
Або жаўрука пераліввы.

Не ўцякайце, дзеўкі, хоць я ёсць „тутэйшы",
Бо тутэйшы файны хлопец, „недзісейшы":
Рамантычны ён такі і з фантазіяй,
У ручку пацалуе, калі ёсць „аказія".

А мундзір зялёны, каб здалёк не бачыў
Вораг і сябрук, што кепска плануе.
Змяніць мяне нельга і перайначыць,
Бо зямлю кахаю, сваіх і матулю.

Мама мне казалі: „Андрэй, будзь нармальны:
Веру не пакінеш, імя і размову,
А калі хто будзе трохі за нахальны,
Ведаеш, як біцца, каб далі дарогу!

## Роднае

Нашым бабулям і нашым дзядулям
Каб жыць найменш сто гадоў,
Цешыцца дзецьмі, унукамі, сонцам
Спяваем усе тут ім гурбой.

Чакаюць нас там, у вёсцы, у хатцы,
Глядзяць у вакно дзень і ноч,
Не спіцца бабулі, сумуе і плача,
Вось столькі наплакала слёз:

За сына, дачку, за ўнука, праўнучку,
Што лёс у іх не такі,
Як марыла маці, трымаўшы за ручку,
Каб весці ў свет светлы такі.

Стараемся, мама, стараемся, тата,
Каб больш не бачыць тых слёз.
За грэх і зласлоўе такая заплата,
Такі горкі, праведны лёс.

Вярнуцца хоць раз нам у тыя хвіліны,
Вяртацца часцей у наш дом,
У якім правялі мы дзяцінства гадзіны,
У дарогу забралі мы ўсё.

Каб зведаць усё гэта, што ў свеце цікава,
Ляцелі з гнязда мы да зор.
А з неба ўпасці — няцяжкая справа,
Каб толькі на родны парог.

## Бельскі раманс

Ці памятаеш ты, як ноч ішла па Бельску,
А мы пад морам зор стаялі да цямна,
І сыпаліся зоры нам у сэрцы прыскам?
А з нашых палкіх сноў нічога ўжо няма...

Не ведаю цяпер, які твой новы адрас,
Ці дзеці ёсць у вас, ці ходзіш ты адна?
У блоку ўсё жывеш, ці новы дом твой вырас?
Чакаў я тваіх слоў, а пісьмаў усё няма.

Нашу ў кішэні ліст, не высланы ніколі,
Бо дзе ж яго паслаць і ў рукі даць табе?
Бо кожнаму з нас лёс пазначыў сваю долю,
І хоць праз сорак год, я не знайду цябе.

Уладзімір Саўчук

* * *

Цёмная ноч ціхая ноч чорная
вясёлка свет акружыла
у прагоне зорачкі смяюцца
па-польску па-беларуску па-чэшску
а я прысеў ля акна адпачыць
і хачу гэту ноч перажыць
таму адсланіў ражок занавескі
а за акном месяц плыў
як у казцы Гаўрыла
плыў і думаў уголас:
— дзе Ты зорачка мілая
ўсмешкі свае пагубіла? —

## Без слоў

Яшчэ
не дараслі вашы дзеткі
ў паэзію жыцця духовага
і ў гонцы за грошамі
абкідаюцца балотам слоў
язычнікі і кнігазнаўцы
абярнуліся плячамі
да святога хлеба
і цяпер валяецца
як пустынная душа
чакаючы холаду і ночы
і толькі голад
накорміць усіх сытых
„сябрамі ў патрэбшчыне
толькі тады
калі бяда заглядае ў вочы".

Барыс Руско

## У ручаі хвілін

У блакіт ураслі дрэвы,
гуляюць у зелень,
на беразе музыкі
золак у бубен б'е.
Згусцілася пушча
ад вачэй бліщчастых,
жыццёву шараду
спрабуй адгадай.
Кожны жэст — стыхія
ў ручаі хвілінаў,
і я ў ім — стыхійны —
утоплены ў плынь.
Кветкі ў строгім маршы,
птушкі на трыбуне,
з гняздом зніттаваныя
свяшчэнным чуццём.
Толькі дзень на варце,
толькі ён цікуе —
з верхавінных кучараў
аж да каранёў.

## Плыву...

Плыву скрозь дрэвы
і дрэў вены,
скрозь алёс
і цела алёсу —
напалавіну птушка,
напалавіну святло,
напалавіну ручай —
у струнах паветра,
у шуме лістоты
плыву,
імглу збіраючы і расу.

## Перспектыва

У гушчары дарог
памерлі дрэвы
і сумленне,
на сметніку
адкормленыя пацукі,
імгла...
Тут мутная вада,
тут мёртвыя рэкі.
І ўсё бачыць і чуе
смерць.

Тут могілкі —
Нямыя Вуліцы.

# Ноч цудаў

## або Купалле ў Белавежы

Сёлета гэтае ўжо шырока вядомае мерапрыемства, арганізаванае беларускімі дзеячамі БГКТ і самаўрадам гміны Белавежа, выпала на 5 ліпеня, як заўсёды ў суботу. Аж дзіў бярэ, што гэткая маленькая лістоўка з беларускім народным арнаментам збоку, са сціплай інфармацыяй пра гэтае традыцыйнае ўжо тут святкаванне, расклееная дзе-нідзе, склікала столькі гледачоў.

Аб арганізацыі свята пачула я ацэнкі станоўчыя і адмоўныя. Да самай ідэі святкавання Купалля, якое ўжо ўпісалася ў каларыт Белавежы, ды не толькі, бо і за мяжой, на Пружаншчыне чакаюць яго, рыхтуюцца штогод і надта цешацца, што ў гэты адзіны дзень у год няма між намі ніякай мяжы — адносіны да гэтага мерапрыемства толькі і выключна пазітыўныя з абодвух бакоў.

Да сёлетняга Купалля былі такія засцярогі: усё менш добрай музыкі, знікаюць дзесьці фальклорныя мелодыі, замала „людовых", усё больш „бум, бум, бум". Так мяркуюць старэйшыя жыхары. Маладзейшыя, больш схільныя да паглыбленых ацэнак і аналізаў. На пытанне: „Як вам падабалася сёлетняе Купалле?", чуецца адзін адказ: „Fajnie, wesoło". Аб тым, што „fajnie i wesoło" і што мерапрыемства набыло шырокую вядомасць на Беласточчыне сведчыць вялікая колькасць удзельнікаў святкавання. На апошнім Купаллі арганізатары налічылі каля 7 000 удзельнікаў. Зразумела, палавіна — гэта жыхары самой Белавежы і бліжэйшых вёсак. Але хапіла пахадзіць сярод удзельнікаў і можна было даведацца, што яны з Гайнаўкі, Бельска, Нарвы, а нават Беластока і ваколіц.

Белавежцы, па звычцы, прыходзяць сюды цэлымі сем'ямі. Былі і экзатычныя госці: журналістка бразільскага тэлебачання, нейкія галандцы, нехта з Ірландыі, ну і каля 150 асоб з Беларусі — галоўным чынам з Пружанскага раёна.

На святкаванне з'ехалася ўсяго 19 вакальных і танцавальных калектываў. Усе, з якімі я размаўляла, а таксама і арганізатары з мясцовага асяродка культуры — Лех Навацкі і Ева Мароз-Кэчыньска — найвышэйшую ацэнку даюць калектыву „Завіруха" з Пружан. Калектыў гэты выразна вылучаўся высокім узроўнем падрыхтоўкі, артыстычным уяўленнем і тым, што з вялікай свабодай, а нават грацыяй вялі яны сябе на сцэне.

Што не падабалася ў іншых калектываў? Вось што: няхай нас не ашукоўваюць! Яны пускаюць „плейбэкі" і толькі вуснамі варушаць, ды яшчэ не трапляюць у словы. Хто не ўмее спяваць, няхай не едзе. Гледачы, якія маюць за сабою ўжо не адно Купалле, крытычна ацанілі тэхнічны бок сёлетняга мерапрыемства. Спадар Навацкі згаджаецца з гэтым. Асвятленне эстрады і ўсяе прылеглае плошчы, дзе тапталіся тысячы людзей, было дрэннае. Такая ж была апаратура (і відаць, такія ж апаратары). У ста метрах ад сцэны нічога не было чутна. (Сказала жыхарка Падалян: „Калісь я выйшла за клуню і ўсенька чула, а цяпепр — нічога").

Хто вінаваты? Вядома, арганізатары. Мясцовыя кажуць, што старшыня Я. Сычэўскі даў замала грошай на гэта. Іншым зноў здаецца, што за тэхнічны бок павінны адказваць мясцовыя арганізатары. Хто б не быў вінаваты за сёлетнюю няўдачу, дык трэба згадзіцца, што ў будучыні гэтак быць не можа.

На гэткае зборышча не было таксама адпаведняга пажарнага і хіба замала паліцэйскага і медыцынскага забеспячэння. Гэта галасы м.інш. работнікаў з мясцовага асяродка культуры.

З гэтых заўваг трэба зрабіць адпаведныя высновы на будучыню.

Ці былі цуды? Былі, найменш тры:

Першы — гэта той, што былі недзе загінулі „дыжурныя электрыкі" і нельга было пачаць мерапрыемства, бо ніхто не мог уключыць апаратуру (дзе яны маглі падзецца?). Аднак нейкім цудам знайшліся і імпрэза пачалася з гадзінным спазненнем.

Другі цуд — гэта свавольства хлапчукоў на даху будынка ПКП (побач эстрады, дзе была калісь чыгуначная каса). Слава Богу, што ніхто не ўпаў і не пакалечыўся (а медыцынскай апекі на месцы не было).

Трэці — ніхто нікога не пабіў у такім натоўпе (мо і не абакраў); прынамсі я не чула. Як тут не кажы, аднак беларусы са сваімі суседзямі палякамі ўмеюць жыць згодна.

Апошняе ўсё адбылося нармальна. Адкрыццё, як заўсёды належала да гаспадара гміны. Войт Станіслаў Куявяк зрабіў гэта культурна і сімпатычна. Далей голас узяў старшыня БГКТ Ян Сычэўскі — беззаганна. У ходзе мерапрыемства гледачы (і тыя, што толькі слухалі, бо спявалі далёка) даведаліся, што старшыня Сычэўскі будзе кандыдаваць у Сейм. Але ўсе занятыя былі забаваю і аб палітычных справах не разважалі. Тое, што я пачула пасля, гэта непакой: ці толькі яму ўдасца?

Як даўней канферанс вяла беспамылковая, свабодная ў выказваннях Валянціна Ласкевіч. Прывучалася пры ёй другая спраўная жанчына з мясцовых, Бася Дулько.

З гадзінным спазненнем паплылі вянкі па рэчцы Нараўцы. Нехта паехаў яшчэ ў Старую Белавежу. Завуркаталі маторы і людзі раз'ехаліся з воклічам: „Да сустрэчы ў наступным годзе!" І так мірна закончылася Купалле 1977 года.

Алена Аніщэўская

# Радзіма — Родзіна

**Частка LXXI**

Сёння, дарагія чытачы, публікую апошні адрэзак цыкла „Радзіма — Родзіна", у якім на працягу двух гадоў прыводзіў я выказванні сваіх размоўцаў на тэму айчыны.

Развітваючыся з тэмай, прагну яшчэ раз падкрэсліць, што найбольш мяне ўразіла ў большасці маіх размоўцаў талерантнасць у адносінах не толькі да іншых народаў, але і да ўсіх тых беларусаў, якія маюць іншыя чым яны погляды, перакананні і ідэі. Можна выказаць поўнасцю ўматываваны погляд, што простыя беларусы не належаць да заўзятых палітычных антаганістаў і палемістаў. Хутчэй за ўсё яны схільны зразумець поўнасцю, вытлумачыць і заапрабаваць усіх тых, хто мае ўласныя погляды. Большасць з маіх размоўцаў лічыла, што палітычная заўзятасць і выкліканыя ёю сваркі і палемікі прыносяць беларусам толькі шкоду сярод чужых народаў. Большасць, але не ўсе! На гэту тэму вельмі выразна выказаўся мой бацька. Вось яго погляд у гэтай справе:

„Калі я толькі чую, што дзесь там адзін беларус нападае на другога беларуса, то я адразу думаю аб тым, што мы дурны народ і што нам трэбо много вучыцца ад другіх народаў і можэ найбольш ад жыдоў. Ты знаеш, як гэто было перад вайною? Паміж жыдамі то адны былі вельмі багаты, а другія то жылі ў страшнай нэндзы. Жабракі жыдоўскія таксама былі па гарадах. Але я ніколі не бачыў, каб перад нашым братам жыд нападаў на жыда. Я ні раз бачыў, як жыды паміж сабою грызуцца. Страшно гаргічут і кулакалі каля насоў сабе махают. Але ніколі не было такого, каб жыд, пасварыўшыся з другім жыдом падышоў да беларуса і сказаў штось пра гэту сварку. Такого ніколі ні было. Я то навет пару разоў пытаў знакомых жыдоў, за што яны сварыліся з другімі жыдамі. То ты знаеш, што яны гаварылі? А гаварылі адно і тое самае: „Нічого я табе не скажу, Андрэю. Мы пасварыліся пра свае дзела і нікому ні трэбо аб гэтых дзелах ведаць. Калі б так мы расказвалі чужым аб усіх сваіх непаразуменнях, сварках, то чужыя аб нас усё знали б і гэто выкарыстоўвалі б procіў нас. А мы ні хочэм памагаці нашым ворагам. Трэбо, Андрэю, паступаць так, каб ты аб ворагу знаў усё, а каб ён аб табе ні знаў нічого". О, бачыш, якія жыды разумны! А наш народ дурны. Аб нас усе чужыя знают усё, а мы аб іх нічого ні знаем. От, таму то ім з намі вельмі лёгка ваяваці. Ну, то сам цяпер бачыш, што найдурнейшы то той, хто нападае на сваіх людзей, а такіх дуракоў то ў нас поўно. А можэ то яшчэ быці і такое, што некаторы нашы тыя, што нападают на сваіх, то яны не дуракі, але робят гэто за грошы, каторы ім дают тыя чужыя, каторым залежыт, каб усё аб нас дакладно ведаці. То ж і за цара, і за Пілсудзкаго, то паліцыя мела между беларусамі сваіх сышчыкоў, каторы за пару рублёў чы злотых даносілі ў паліцыю ўсё аб нашых людзях. А ты думаеш, што цяпер то такіх ужэ німа? Заўшэ былі і заўшэ будут. Ведомо, што ні ўсе такіе, але часць паскуды заўшэ будзе".

Нават калі б не з усімі сцвярджэннямі майго бацькі трэба было згадзіцца, дык несумненным застаецца адно: для некаторых з нас беларусаў характэрнае самаедства і, мабыць, яшчэ доўга не пазбудземся гэтай хваробы. Зрэшты, самаедства характэрнае для ўсіх народаў, якія доўга жылі ў няволі і ў нейкім сэнсе з гэтай няволяй пагадзіліся. Лякарства ад самаедства я не бачу. Можа яно знікнуць або змінімалізавацца толькі тады, калі народ наш пачне карыстацца дабрадзействам поўнай дзяржаўнай незалежнасці. Але калі гэта будзе?

Вяртаючыся да з'явы талерантнасці, якая выступала ў большасці маіх размоўцаў, прагну сказаць, што рыса гэта застаецца ў глыбокім супраціве да тых многіх сучасных беларускіх публіцыстаў, якія заядла атакуюць усіх тых беларусаў, што інакш чым яны думаюць або належаць да іншай чым яны фармацыі.

Аднак жыццё мае ў сабе шмат характва, шматколернасці і дабрыні і таму выбіраю арыентацыю на жыццё, а не на прапаведнікаў мізэрнасці і не намерваюся не толькі нападаць на тых беларусаў, якія маюць іншыя погляды чым мае, але нават бараніцца ад тых, якія змагаюцца з псеўдакамунізмам пры дапамозе бальшавіцкіх метадаў.

**Алесь Барскі**

# Як чужыя становяцца блізкімі

У чацвер, 26 чэрвеня пасля поўдня, рубаў я ля клуні дровы, калі ўбачыў, што нейкі „Малюх" затрымаўся перад маім домам, а з яго вылезлі трое незнаёмых мне людзей: мужчына і дзве жанчыны. Прывітаўшыся, выявілі мэту свайго візіту: прыехалі ў нашу старану, каб наведаць Чаромху, а ў нашым доме хочуць толькі пераначаваць, бо так ім параілі па дарозе. Калі ласка, гаворым з жонкай, начуйце — у нас месца многа.

Гасцямі аказаліся жыхары Эльбланга, Ян і Станіслава Канечныя і іхняя сваячка Яўгенія Марцін — ад паўгода ўдава. Спадарыня Яўгенія нарадзілася ў Чаромсе-Станцыі, з якой выехала пяцьдзесят гадоў таму і з тае пары ніколі яшчэ не наведвала роднай мясцовасці. Але вось цяпер, перад смерцю, захацела пабачыць родную старонку, людзей і дом, у якім жыла з бацькамі. Госці пакінулі ў мяне свае сумкі і яшчэ ў той жа дзень з'ездзілі ў Чаромху на некалькі гадзін, а калі вярнуліся, дык яшчэ ўспелі пабачыць наша вадасховішча Бахматы. Раней, перад прыездам да мяне, наведалі яны Белавежу і Белавежскую пушчу. Вельмі ж ім усё ў нас спадабалася: і здаровы клімат, і добрыя людзі, і наша гаворка, і ўсё-ўсё, што навокал! Найбольш хваляванняў пакінуў візіт у Чаромху. Спадарыня Яўгенія без цяжкасцей пазнала свой колішні дом — барак, які цяпер у руіне. А на вуліцы яе пазнала сяброўка са школьных гадоў, якая ехала на ровары! Былі ўспаміны і слёзы. А больш нікога са знаёмых не спаткала, бо або паўміралі ўжо, або павыязджалі ў свет.

Спадарства Канечныя пабраліся шлюбам сем гадоў таму: абое ўжо тады аўдавелі.

Спадар Ян пабачыў шмат свету. У колішняй ГДР быў вялікі парадак і культурныя людзі, а ў колішнім СССР — вялікае бязладдзе і вельмі добрыя людзі. Сам ён нарадзіўся ў Чанстахове а дарослае жыццё правёў у Варшаве; толькі сем гадоў таму пераехаў у Эльбланг, да Станіславы. А яна нарадзілася каля Пярэмышля; яе бабуля была ўкраінкай. На адным канцы яе колішняй вёскі стаяў касцёл, а на другім — царква, і ўсе супольна святкавалі так каталіцкія, як і праваслаўныя святы. Бацькі сп. Станіславы ў міжваенны перыяд ездзілі разам з аднавяскоўцамі на заробкі аж у Данію, бо дома не было грошай, каб пракарміць немалую ў іх сям'ю.

І так з гэтымі дабрадушнымі людзьмі прасядзелі мы аж да поўначы, як з самымі блізкімі і роднымі па крыві.

**Мікалай Панфілюк**

# Загранічнае танней

27 чэрвеня давялося мне пабываць у Нарве. Зайшоў я ў адну прыватную краму выпіць піва ды памяняць грошы на драбнейшыя, бо яны былі мне патрэбны на пункце скупкі грыбоў. Вельмі зацікавілі мяне цэны ў той жа краме. Са здзіўленнем заўважыў я, што кілаграм замежных курыных кумпячкоў каштаваў тут 6,50 зл., а нашых, айчынных, 7,70 зл.

Тут мне прыйшла ў галаву думка, што ў сябе заўсёды свае кумпякі даражэйшыя, бо калі прыедуць да нас дзяўчаты з-за ўсходняй мяжы, яны чужыя і заўсёды прадаюць свае сцёгны намнога танней. Калі нашы дзяўчаты ці маладыя жанчыны выязджаюць на Захад: у Нямеччыну, Бельгію, Францыю ці Злучаныя Штаты Амерыкі, там прадаюць намнога танней свае сцёгны, чым айчынныя. Для нашых кабет гэта неістотнае, як яны прададуць: пад плотам, пад карчом ці можа ў падвале, дзе бегаюць пацукі, абы толькі прадаць нягледзячы каму і за колькі, а потым вярнуцца да сябе і тут нарадзіць негра ці араба. Тут лічыцца толькі тое, колькі яны на кумпяках зарабілі, каб мужыкі ездзілі на легкавых машынах і будавалі вілы за праданыя жаночыя сцёгны.

Цяпер я добра ўсё зразумеў чаму загранічныя сцёгны намнога таннейшыя за нашы.

**Мікалай Лук'янюк**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

**Васіль Сакоўскі**

***(працяг;***
***пачатак у 18 н-ры за 1996 год)***

Распачаў я сваю навуку ў 1947 годзе, калі мне было ўжо 10 гадоў. Так большменш распачыналі і ўсе іншыя мае раеснікі з нашай і акалічных вёсак.

Вучыўся я ў вёсцы Пасынкі. У пасынскай школе вучыліся тады дзеці і моладзь з васьмі акалічных вёсак. А было яшчэ на вёсках нашых моладзі многа-многа тады. Многія нашы вучні былі моцна пераarray. Школа і класы былі перапоўнены, моладзь задзірыстая. Часта ўзнікалі розныя канфлікты і бойкі між намі.

Кніг не было або не ўсім іх хапала, сшыткаў і іншых школьных прылад дапаможнікаў таксама. Але найбольшыя клопаты былі з абуткам і вопраткай. Іх не вельмі было дзе і за што купіць, а ўжо купленае проста гарэла на мне.

Восенню і зімой трэба было рана выходзіць з дому і цёмна вяртацца, бо дарога была далёкая і цяжкая, непрыстасаваная. Цяжка было і нам, вучням, тады, і цяжка было з намі.

Навука ўсё ж такі ішла, і не без следу. Хто з пераросткаў стараўся і спраўляўся з навукай някепска, настаўнікі дапамагалі ім за год канчаць па два класы і надрабіць страчаны час. Так што пачатковую школу я закончыў у нармальны тэрмін.

З выбарам сярэдняй школы клопатаў не было. Я і мае бацькі ведалі ўжо загадзя, што маёй сярэдняй школай павінен быць Бельскі беларускі ліцэй. Гэты ліцэй быў моцна папулярны тады. Ён быў, можна сказаць, нашым беларускім універсітэтам.

Здаўшы ў 1952 годзе ўступныя экзамены, я стаў вучнем Бельскага беларускага ліцэя. Навука ў ліцэі была аднак нялёгкая. Веды ў пачатковых вясковых школах многія з нас атрымалі слабенькія. Вельмі цяжка было таксама прыстасавацца да ўмоў гарадскога і самастойнага жыцця, здалёк ад роднай вёскі і таты з мамай. Да таго ж вялікай перашкодай былі сталыя матэрыяльныя нястачы. У суботы дамоў за 12 кіламетраў, а ў нядзелі з дому хадзіў пяшком, хаця і курсавалі ўжо аўтобусы. Ліцэй быў таксама моцна перапоўнены. Восьмыя класы налічвалі звыш сарака вучняў у кожным.

Дысцыпліна ў ліцэі была суровая, і трымаў яе ў асноўным дырэктар. Гэта ён быў усяму галава. Спазненняў, прагулаў, нават мінімальнай правіннасці ён не пераносіў — успрымаў іх проста як асабістую знявагу. Дысцыпліну і паслушэнства лічыў ён важнейшым выхаваўчым элементам. З поўнай адказнасцю можна сказаць, што наш ліцэй быў тады школай, у якой выхаваўчая сістэма дзейнічала згодна прынцыпу: за аднаго бітага трох нябітых даюць. І правільна, хаця ў той час нам так не здавалася. І такой дысцыпліны, і стражнікаў яе, мы не надта любілі і стараліся здалёк абмінаць іх, хаця не заўсёды нам удавалася гэта.

Асоба Яраслава Васільевіча Кастыцэвіча адыграла немалую ролю і ў маім жыцці, і ў жыцці многіх дзяўчат і хлопцаў майго пакалення, і ўсёй нашай тутэйшай беларускай грамадскасці. Гэта, між іншым, яго заслуга, што паўстала ў нас беларускае школьніцтва па вайне. Гэта яго заслуга, што былі адкрыты нашы беларускія ліцэі, якія мноства нашай беларускай моладзі вывелі ў людзі і надалей выводзяць.

Яраслаў Васільевіч, калі стаў дырэктарам бельскага белліцэя, быў ужо немаладым чалавекам. У той час адбывалася мноства розных імпрэзаў, у якіх павінны былі ўдзельнічаць школы, тым больш беларускі ліцэй, які меў свой духавы аркестр. Але, бадай, не было такой, у якой не ўдзельнічаў бы сам дырэктар, знаходзячыся заўсёды на чале сваёй школы.

Наш дырэктар асабіста і па прозвішчу ведаў усіх сваіх ліцэістаў. Не толькі перад дарослымі, якіх знаў мноства, але і перад кожным з нас, ліцэістаў, здалёк здымаў на вуліцы сваю шапку і першы вітаўся. Але Божа цябе ўпасі, калі ты не заўважыў яго і культурненька не адкланіўся, тады ўжо трымайся, бо на бліжэйшай лінейцы ўся школа будзе мець з цябе пацеху: „Вчера ученик восьмого класса „б" Сакоўский так был занят наблюдением за пьяницами около пивной, что даже не заметил своего директора! Прошу его сюда!!!..."

О, Божа, аж цяпер дрыжыкі па целе прабягаюць.

А некаторым нашым ліцэістам даставалася яшчэ горш, напрыклад: „Вчера вечером около Кармелитского костёла наш пьяный ученик валялся в снегу. Это недопустимое безобразие..."

І ў такім выпадку наш дырэктар ужо не гаварыў, а проста грымеў святым гневам. Нават калі і не выкінулі такога вучня са школы, то так дастаў ён па вушах, што напэўна на ўсё сваё жыццё набавіўся агіды да гарэлкі і выпіўкі. І так амаль на кожнай лінейцы наш шаноўны дырэктар або кагосьці хваліў, або граміў. Хваліць наш дырэктар таксама ўмеў і любіў.

***(працяг будзе)***

# Тры карты

Калісь, калі жыў я яшчэ ў Відаве, неаднойчы на рынку ў Бельску бачыў, як іграюць у тры карты, але тады гэта не цікавіла мяне. А цяпер вось, у Ольштыне, крыху пастаяў і паўглядаўся, як іграюць.

Эдварду Л. сорак пяць гадоў, жанаты, мае чацвярых дзяцей і 12 гектараў ворнай зямлі — узрост такі, калі трэба ўжо мець розум і павагу. Але ў чалавеку захоўваецца нешта з малога хлопчыка і ў нашым героі было яно таксама. Эдвард прадаў толькі што ў недалёкай базе два бычкі і поўная кішэнь наводзіла на яго адчуванне нейкай эфірнай лёгкасці. Дзецям купіў марожанае, напіткі, пістонныя пісталеты. Схадзіў у касцёл, памаліўся перад святою фігуркай і паехаў у Ольштын. На вуліцы не пазнаваў нікога, не рэагаваў на зачэпкі цыганак, не звяртаў увагі на ларкі і крамы. Зацікавіў яго натоўп навокал дзялка, лоўка жангліруючага трыма картамі. Наш гаспадар прыстаў збоку да людзей з разяўленымі ратамі і, так як і яны, прагна прыглядаўся, як карты лёталі па адвернутай дагары дном скрынцы. Нейкі крыклівы мужчына, пэўна наганяты, стаўляў грошы.

— Людзі, людзі! Што я раблю? Раз, два, тры, катора карта сотню варта! — крычаў дзялок, што і раз паказваючы шчаслівы туз. Наш Эдвард прыпомніў сабе той час, калі ў тры карты гралі яшчэ старою чырвонаю сотняй. Тады не было ў яго грошай, каб паіграць, але сёння меў у кашальку дзевяць зялёных стозлатовак і рука неяк аж сама рвалася да іх. Махляр прыкмеціў гэта, пару разоў яшчэ паказаў як іграць, і звярнуўся проста да Эдварда:

— Мужык, стаўляй, бо табе кішэні ад грошай паадрываюцца! Раз, два, тры, цялушка! Раз, два, тры, свінка! Выйграеш „балона” ў пана Збынка!

Эдвард падаў грошы. Натоўп з пашанай расступіўся перад ім. Дзялок патасаваў карты, а па караку нашага гаспадара пацякла стужка поту: згані, чалавеча, якая карта... Эдвард кляпнуў адну з карт: адвернутая, аказалася выйгрываючым тузам!.. Натоўп аж охнуў, а наш гаспадар выпрастаўся з усмешкай.

— Пане, пане! Пан хіба трэніраваў дома, прашу рэванш. Адна „банька”, другая „банька”, грай са мною да белага ранка! — заахвочваў ашаломленага Эдварда махляр. Заахвочаны Эдвард паўтарыў стаўку; і зноў выйграў! Цяпер не выпадала адказвацца ад ігры. Выйграў, дык хапае і на тое, каб і прайграць — падумаў адважна, калі ўсе глядзелі на яго са здзіўленнем. Эдвард не вельмі ўжо і цяміў, што навокал яго дзеялася, стаяў над скрынкай як зачараваны. Цяпер ужо і прайграваў. Па гадзіне быў ужо без грошай. Гарачыўся яшчэ, прабаваў нешта гаварыць, бо нават не заўважыў, што не было ўжо і да каго: махляр прыбраў карты і грошы і шмыгануў, а за ім разышоўся і натоўп.

Пакуль Эдвард вярнуўся дадому, дайшла ўжо туды чутка пра яго прыгоду. Жонка ўжо ў фортачцы прывітала яго дручком:

— Ты дурны бязмене! — крычала. — Не пушчу цябе дадому, пакуль не адробіш сваёй дурноты. Спі з бычкамі, бо нямнога ты ад іх мудрэйшы.

Дзеці моўчкі сачылі з вакна на бацькава прыніжэнне. Толькі наймалодшы сынок выстраліў з пістоннага пісталета.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 3. кіславаты напітак, 8. Імрэ. венгерскі пісьменнік (1823—64), 9. востраў з Курыльскам, 10. імя Арафата, 11. афіцыйная плата, 13. сібірскі народ, 15. сталіца Заходняй Віргініі, 16. тупы, някемлівы чалавек, 20. спеў вароны, 22. горад у штаце Мэрыленд, 23. вялікі мужчынскі манастыр, 27. вада, што спадае са стромага ўступа, 29. горад у Венесуэле, 30. тканіна для вышыўкі крыжам па клетках, 31. механізм для пад'ёму грузаў, 32. рака ў Балгарыі, 33. мастацкае адлюстраванне рэчаіснасці, 34. водгалас.

**Вертыкальна:** 1. гара ў Балівіі, 6780 м, 2. здабыча, 4. унук Усяслава, які княжыў у Полацку ў 1132—38 гадах, 5. рака ў Румыніі, 6. горад у Балгарыі, 7. суконнае верхняе адзенне з башлыкам, 12. гара ў В'етнаме, 3143 м, 14. пярэварацень, здольны абарочвацца ў ваўка, 16. кекс, насычаны ромам або вінoм, 17. горы ў Балгарыі, 18. абурэнне, злосць, 19. народны сход у славян, 21. старажытнагрэчаскі заснавальнік філалогіі (220—145 да н.э.), 24. павольны тэмп музычнага твора, 25. рака ў Бурундзі, 26. недарэчнасць, 27. сталіца на Рэйне, 28. сталічны горад на захадзе Афрыкі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 23 н-ра:**

**Гарызантальна:** смага, засцярога, Фонда, ангар, мір, пратока, адзнака, таз, Роўда, уніят, Андрамеда, нетра.

**Вертыкальна:** калядкі, сасна, анода, занатоўка, Аргенціна, фюрэр, рокат, мат, раз, Атланта, Алдан, Унеча.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Самборскай** і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

**Папраўка:** У папярэднім нумары дапушчана памылка. У пазіцыі вертыкальна-2 павінна быць: аб'ём кілаграма вады. Перапрашаем.

# *Парнасік*

## Лета

Ігра колераў і сонца.
Перад намі бязмежная даль,
Блакітная. Лодку ўбачыш.
Вада шуміць і шэпча:
— Не бойся! Ідзі да мяне!
Адчуеш сябе як рыба.
З цела змыеш бруд і стому.
Чакаю цябе!

**Аўрора**

## Час пад жніва

Сонца грэе,
Збожжа спее.
Пойдуць у рух касілкі
А таксама вілкі.
Жніва распачнецца,
Кожны з нас прачнецца
І работа пойдзе скора.
З радасцю ў сэрца прасторы
Жніва мы чакаем,
Бо дакладна знаем:
Колас дасць нам плён;
Шлю яму паклон.
Колас, як схіліўся —
З намі ён прымірыўся,
Бо нарос умела
І жніва ўжо даспела.
А колас просты — знаем...
Менш пра яго дбаем,
Бо ён пусты, пнецца ўверх;
Гэтаму, чытач, павер.
Бо і чалавек
У кожны час і век,
Калі ён высока ставіцца,
Ніколі не праславіцца.
Ніва, так як жніва,
Нам прыносіць дзіва.
Цвыркун цвыркае,
Нас да жніва клікае.
Можам тут спаткаць і вожыка
З мілай мордачкай і носікам.
А птушак не пералічым —
У госці іх паклічам.
Сёння жніва скорае,
Абы толькі не мокрае.
Загудзяць камбайны;
Селянін наш дбайны
Жніва ад сэрца заплануе,
Аднак ён гаруе.
Урад ставіць яго на другім плане,
Бо сам прывык жыць у абмане.

**Мікалай Панфілюк**

## Так было

Як было калісьці,
Відаць, усё забылі.
У адной хаце спалі,
З аднае міскі елі.
А цяпер старэчаў
Нікому не трэба,
Маюць свае грошы
І самі купяць хлеба.
Калі ўжо хвароба
Прыцісне іх моцна,
Дзеці спаглядаюць
Тады вельмі злосна.
Не хочуць узяці
Ды іх даглядаці,
Каб яны спакойна
Дажылі на свеце.
Кажуць, у дом пенсіянера
Старых адаслаці,
Там людзі за грошы
Будуць іх пільнаваці.
Калісь для свякрухі
Трэба было гадзіці,
Даці свінням есці,
Ды кароў падаіці.
І для свёкра таксама
Прыходзілася гадзіці
І місачку падставіць,
І лепей акрасіці.
Нашы мілы дзеткі,
Вам трэба гэта знаці,
Калі станеце старымі,
Дапамогі будзеце чакаці.
Паглядзіце на бацьку,
На сваю матулю —
Яны ж вас гадавалі,
Шмат начэй не спалі.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Снілася мне, што я на працы, штосьці стаўлю на паліцы ў шафе, прыбіраю. Шафы быццам такія, як у нас, але складаюцца з трох частак-надставак. Раптам яны пачынаюць валіцца на мяне. Упалі дзве цяжэзныя часткі, са мной нічога не здарылася, хоць валіліся мне на галаву, на спіну. Яны ўпалі, але з іх нічога не павыпадала. Бачыў гэта шэф, вельмі спужаўся і раззлаваўся. Прабую хоць прыпадняць частку шафы, але не магу зрушыць яе з месца, такая яна цяжкая. Словам, проста цудам яна мяне не забіла.

Мне ў апошні час сніліся тры сны, у якіх паяўляецца „тры” (на тры часткі падзеленая пальма, дыскусія ў БГКТ, на якой беларусы дзялілі нешта на тры і не маглі пагадзіцца, і гэтыя тры шафы).

**Мірка**

Мірка! Адно з двух. Або ў тваім жыцці здарацца нейкія тры падзеі, пагражаючыя стабілізацыі твайго жыцця. Бачыш жа, што гэтыя тры шафы валіліся на цябе так, што ледзь цябе не забілі і ты цудам выратавалася. Праблемы могуць зваліцца на твае плечы з трох бакоў: могуць гэта быць нейкія сямейныя справы ў спалучэнні са службовымі. Гэтыя справы наогул ідуць у пары: калі пачынае нешта псавацца ў хаце, зараз жа адбіваецца гэта на службовых справах. А табе ж вось і снілася, што ўсё дзеецца на рабоце.

А мо гэтыя твае „трайныя” сны сапраўды датычацца праблем беларусаў у Польшчы перад выбарамі. Сапраўды, падзяліліся на тры часткі. І што з гэтага будзе?!

**Астрон**


*Ніва*

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка

## Кавалеры з Нарвы

Яблычка чырвонае маю ў руцэ,
Хачу ў падарку даць Ганначцы.
Ганначкі вяночак плыве па рацэ,
З васілёчкаў звіты і са свечачкай.

Яблычка чырвонае каму дам?
Каму сэрца б'е „там-там-там"!
Хто мне сэрца дасць, то і я аддам.
Завяду з царквы ў свой дом.

Ганначкі вяночак злавіў Мікалай.
Рады ён такі, хоць у морду дай.
Я бягу з гары, верашчу: „Аддай!"
А Мікола мне: „Вымятай!"

Кажу я яму: „Рыжык ты!
І гарбаты нос, рукі пядзі тры,
А жывот які — аж у тры пуды,
Зямля ў цябе, з зямлёй ты куды?!

А я з горада вось мужык,
І „Фіат" у мяне, і пакоі тры.
Дроў насіць не трэба, грэць вады.
Дзеўцы будзе рай, не з такім, як ты!"

Пайшла Ганначка не з намі:
Узяла беластоцкага, з грашамі,
„Мерседэс" ён мае, а не „Фіат".
Асталіся з фігай мы — я і брат.

**Міра Лукша**




*Мал. В. Ключніка*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Стары маладажон з маладзенькаю жонкай выбраліся ў пасляшлюбнае падарожжа. У спальным вагоне яна легла на ніжняй паліцы. Згасілі святло. Пачуўся пляск. Маладзіца выглянула ўверх — гэта муж паклаў у шклянку свой зубны пратэз. Чуе скрыгат і бачыць, што муж адкручціў пратэз рукі. Праз мінуту тое самае зрабіў з пратэзам нагі. Хвіліна цішыні. Урэшце ён пытае:

— Ці магу сысці да цябе ўніз?

— Не намагайся так, адчапі і, папросту, падай мне.

* * *

Маладая пара рыхтуецца да пасляшлюбнай ночы. Ён уваходзіць у спальню ў чорнай піжаме. Жонка заводзіць размову:

— Мушу табе да чагосьці прызнацца: не першы ты ў мяне.

Ён вяртаецца ў прыбіральню і выходзіць адтуль у паласатай піжаме.

— Навошта пераапрануўся? — цікавіцца яна.

— У чорным хаджу толькі на прэм'еры.

* * *

— Якая вяршыня забыцця?

— Калі муж пасля шлюбнай ночы ўручае жонцы пяцідзесяцізлатовы банкнот.

— А вяршыня прывычкі?

— Калі яна прымае тыя грошы і пытае: „А прыйдзеш яшчэ раз, коцiку?"

* * *

Маладая ўжо доўга чакае ў пасцелі, а муж стаіць увесь час у вакне і глядзіць на зоркі.

— Хадзі ўжо, даражэнькі...

— Яшчэ не, каханая. Мама гаварыла мне, што гэтая ноч будзе найпрыгажэйшая ў маім жыцці. Не хачу з яе страціць ні хвілінкі.

* * *

Пасляшлюбная ноч.

— Вярэдзіць маю душу адна справа: не да канца быў я шчыры, калі гаварыў, што не цікавяць мяне грошы твайго бацькі.

— Мяне таксама мучыць сумленне, бо не сказала я табе ўсяго: мой бацька абанкруціўся тыдзень да нашага шлюбу.

# Пяшчотнасць

Пасля пяцігадовай разлукі яны, нарэшце, выпадкова сустрэліся ў знаёмых... Вакол шумела застолле, але яны ўжо не звярталі на яго ніякай увагі...

— Сцерва! — думала яна, гледзячы праз застаўлены стравамі стол на яго выпешчаныя рукі...

— Ведзьма! — углядаючыся ў яе зусім не пастарэлы твар, падумаў ён.

— Жанаты? — спытала яна яго як бы між іншым.

— Быў... — адказаў ён, а сам падумаў: „Вось язва!"

— Лапух! — падумала ў адказ яна.

— А ты замужам? — пацікавіўся ён.

— Развялася... — адказала яна.

— Змяя! — падумаў на гэта ён.

— Дзеці ёсць? — спытаў.

— Боўдзіла! — падумала яна і адмоўна пакруціла галавой.

— А ў цябе? — спытала яна.

Ён паморшчыўся і махнуў рукой... А сам падумаў: „Мырма!"

— Дурак! — падумала яна і спытала: — Дысертацыю — то нябось абараніў?

Ён толькі развёў рукамі...

— Бесталач! — падумала яна. — Паразітка! — падумаў ён у адказ.

— А ты ўсё шыеш? — спытаў ён.

— Хам! — падумала яна і кіўнула.

— І не надакучыла? — пацікавіўся ён.

— Грубіян! — падумала яна і адвярнулася.

— Патанцуем? — пасля паўзы спытаў ён.

— Хмыр! — падумала яна і нічога не адказала.

— Зануда! — мільганула думка ў яго галаве.

— Свіння! — падумала яна, прачытаўшы яго думкі.

— Зараза! — падумаў ён, адчуў гэта, і выпіў поўную чарку каньяку.

— Алкаголік! — падумала яна, з нянавісцю гледзячы як бурштынавы напітак знікае ў яго глотцы.

— Мегера! — заўважыўшы яе позірк, падумаў ён, закусваючы каньяк лімонам.

Некалькі секунд яны глядзелі адзін на аднаго. Яна спапяляла яго ненавісным позіркам, а ён у адказ свідраваў яе сваім, быццам пабядзітавым свердзелам.

Нарэшце ён не вытрымаў, устаў з-за стала, падышоў да яе і груба схапіў за локаць.

— Скаціна! — падумала яна і паспрабавала вырвацца... Але ён моцна трымаў яе руку і думаў:

— Дрэнь! Ідыётка!!!

Ён выцягнуў яе з-за стала і пацягнуў да дзвярэй... Яна шалёна адбівалася ўсімі чатырма канечнасцямі, кусалася і драпалася. І толькі калі ён даваў яе да загса, яна стала пакорлівай.

— Добра... Рызыкну яшчэ раз! — падумала яна. — Але гэты, сёмы, раз будзе апошнім!

**Антон Макуні**

*Пераклаў Валерый Бабей*

# Сардэчныя тайны

Сэрцайка! Рэдка табе пішуць мужчыны. Скардзяцца на свой лёс найчасцей бабы. Гэта іх мужчыны ашукваюць, кідаюць цяжарных, не цікавяцца дзецьмі, п'юць да таго беспрапойна. Эх, бабы, бабы... Ім здаецца, што мужыкі найменшых клопатаў не маюць. А мы іх маем, а як жа, ды толькі клопаты нашы не такія банальныя, як іхнія.

Во ў мяне, напрыклад, нават не з бабай — з мужчынам маю клопат. Гэта мой сябра, з якім мы разам вучымся ў вышэйшай школе. Жывем з ім у інтэрнаце ў адным пакоі. Нас жыве там трое. Ну, і што ты скажаш?! Кажа, што кахае мяне. Калі сказаў гэта першы раз, я пачаў рагатаць. Ён пакрыўдзіўся. А я ж сапраўды думаў, што ён жартуе. Хто гэта бачыў? У нас такога і ў родзе не бывала.

Калі б яго цёплыя адносіны да мяне скончыліся на нейкіх платанічных пачуццях, можна было б яшчэ гэта яму даравацъ. Але ж ён не дае мне жыць. Я не магу ў кампаніі пагуляць з ніводнай дзяўчынай, бо ён не адыходзіць ад мяне. Калі ўсміхнуся той ці іншай — сябра амаль не расплачацца ад зайздрасці. А што ўжо бывае, калі дамоўлюся схадзіць кудысьці з нейкай дзяўчынай! Бегае за мною, сочыць, падглядае. Аднойчы высачыў нас у кавярні. Падышоў, схапіў мяне за руку ды кажа: „Дахаты!" Ты ведаеш, як мне было сорамна! Людзі ж недурныя.

Але найгорш бывае ўначы. Як толькі наш трэці сябра засне, мой „каханак" услізваецца да мяне ў пасцель і пачынае прытуляцца да мяне. Мне робіцца агідна, я адварочваюся ад яго, а яму толькі гэтага і трэба. „Цёта!" — шапчу я ў злосці, каб не пачуў той хлопец, што спіць, а гэты толькі ўхмыляецца. Відаць, што яму вельмі прыемна быць са мною.

Божачкі! Што рабіць? Я ж не магу сказаць, што ненавіджу гэтага сябра. Ён мне вельмі падабаецца як чалавек, на яго я заўсёды магу разлічваць і ведаю, што ён не падвядзе. Зрэшты, мушу табе прызнацца, што нягледзячы на тое, што не люблю педэрастаў, гэты хлопец дасоўна мяне абяззбройвае. Такі далікатны, такі закаханы. Не пасоўваецца так далёка, каб не зрабіць мне прыкрасць. Проста, не можа паўстрымацца, каб не аказаць мне свайго пачуцця. „Холадна аднаму!" — сказаў ён мне калісьці. Трактую яго, як неразумнае дзіця, усё яму дарую, хаця, скажу проста з моста, што калі б так да мяне прытулялася нейкая дзяўчына, то ўжо б я ёй не даравал. Мая была б!

Усё ж такі момантамі такая сітуацыя становіцца нязноснай, асабліва тады, калі ён аказвае мне сваю зайздрасць. Людзі ж усё бачаць. Я не хачу, каб гаварылі, што і я — педэраст; бо, дальбожачкі, схільнасці да хлопцаў не маю. Калі ўжо цярпець, дык за свае грахі.

А яшчэ ж падумай, і сярод дзяўчат пойдзе чутка, што я, маўляў, сякі-такі. Яшчэ і не захоча мяне ніводная. Дзяўчатам „цёты" не падабаюцца. Кожная хоча мець у ложку стопрацэнтнага мужчыну.

І, такім чынам, мой закаханы сябра можа давесці мяне да старакавалерства.

Усе гэтыя справы мяне вельмі непакояць. Быццам бы нічога такога, але могуць надта пашкодзіць мне ў жыцці.

Скажы, даражэнькае, як можна растлумачыць усё майму сябру?! Бадай вазьму, ды пачытаю яму „Ніву", бо ён па-беларуску чытаць не ўмее. А ты ўжо напэўна яго павучыш.

**Юрка**

Юрка, даражэнькі! А мне здаецца, ты пішаш сёння не дзеля таго, каб я павучыла твайго сябра, а больш дзеля таго, каб супакоіць сябе самога. Мо і добра, што ты занепакоіўся, бо ўжо цябе памалу бярэ. Неабавязкова быць педэрастам ад нараджэння. Часамі жыццёвыя ўмовы даводзяць да гэтага: войска, турма, інтэрнат, балет.

Ты добра зрабіў, што ўмомант спахапіўся. У гэтых справах можа быць запозна, калі б вы ўжо, напрыклад, цалаваліся, калі б дайшло да сексуальнага акту. Хлопец гэты пачынае табе падабацца, хаця ты яшчэ адварочваешся ад яго „з агідай". Калі хтосьці сапраўды адчувае агіду да кагосьці, дык кажа: „Вон!"

Змяні пакой у новым навучальным годзе!

**Сэрцайка**